# РУНЬ
газэта беларусаў Літвы

20 верасьня 2000 №34 кошт 1 літ



Разам з прэзыдэнтам Літвы У. Адамкусам

**Альфонс Аўгуліс** нарадзіўся ў 1944 г. на беларуска-літоўскім памежжы, у вёсцы Пелігрында Астравецкага раёну. Маці ягоная беларуска, бацька — літовец. У 1950 г. памёр бацька. Дзяцінства й юнацтва былі цяжкімі. Каб пражыць, даводзілася вучыцца й працаваць. У 1957 г. Альфонс скончыў беларускую сямігодку ў Рымдзюнах, у 1962 г. — Марыямпальскую сярэднюю школу (Віленскі раён), у 1970 г. — Літоўскую сельскагаспадарчую акадэмію ў Каўнасе, атрымаўшы спэцыяльнасьць інжынера-мэханіка.

З 13 гадоў пачаў сваю працоўную дзейнасьць вясковым пастухом. Працаваў у калгасе, у лясьніцтве, у будаўніцтве. Перапробаваў шмат рабочых ды інжынерных прафэсіяў: быў ліцейшчыкам на Каўнаскім сударамонтным заводзе, слесарам-мантажнікам, шафёрам, майстрам, інжынерам, вядучым канструктарам, галоўным інжынерам.

З узнаўленьнем незалежнасьці Літвы займаў пасаду намесьніка старшыні Камісіі рэгіянальных праблемаў пры Вярхоўным Савеце Літоўскай Рэспублікі. У 1993-94 гг. быў паслом Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі. З 1995 г. узначальвае таварыства «Kraštiečiai» («Землякі»).

Непартыйны, веруючы, актыўны грамадзкі дзеяч. Зьяўляецца старшынём клюбу выхадцаў зь Беларусі «Gervėčiai» («Гярвяты»), выдаўца газэты літоўцаў Беларусі «Lietuvių godos» («Літоўская годнасьць»), ініцыятар узнаўленьня дзейнасьці Літоўска-Беларускага Таварыства, якое было заснаваная ў Ковенскай рэспубліцы ў 1926 г. нашым знакамітым земляком, архітэктарам Клаўдзіем Дуж-Душэўскім. Маючы вышэйшую будаўнічую адукацыю, шмат сілаў аддае справе аднаўленьня касьцёлаў, цэркваў ды іншых архітэктурных помнікаў у Літве, Беларусі, Польшчы, Калінінградзкай вобласьці, за што сёлета атрымаў ліст-багаслаўленьне ад Папы Рымскага Яна Паўла II.

У маладосьці Альфонс Аўгуліс прафэсыйна займаўся спортам (вольная барацьба). Ягонае хобі — садаводзтва, паляваньне, рыбалка, калекцыяваньне кніг. Свабодна размаўляе па-беларуску, па-польску, па-руску, па-украінску. Добра ведае нямецкую мову.



Гутарку з кандытатам ад Новавіленскай выбарчай акругі N10 сп. Альфонсам Аўгулісам чытайце на старонцы 2!

# Альфонс Аўгуліс — наш кандыдат у Сойм!

***Бальшыня з вас сваімі подпісамі ўмацавала маё рашэньне стаць кандыдатам ад выбарчай акругі N10 (Новая Вільня, Павільнюс, Лепкальнё, Дзуку, Наўянінкай, Керцімай). У выпадку, калі мяне абярэце, я зраблю ўсё, каб апраўдаць ваш давер і ў сваёй дэпутацкай дзейнасьці буду імкнуцца да таго, каб:***

- у Беларусь можна было ехаць бяз візаў (як у Калінінградзкую вобласьць);
- рабочым і служачым збанкрутаваных прадпрыемстваў вярнулі невыплачаныя ім заробкі;
- пачалі працаваць нядзейныя прадпрыемствы, ствараліся новыя працоўныя мейсцы;
- ствараліся ўмовы для разьвіцьця сумленнага прыватнага прадпрымальніцтва;
- у Літве ўдвая зьменшыўся апарат чыноўнікаў, пачынаючы з Сойму і міністэрстваў;
- дзяржаўныя сродкі не выкарыстоўваліся чыноўнікамі міністэрстваў і дэпутатамі Сойму для прыватных паездак за мяжу й для асабістага абагачэньня;
- пенсіі налічваліся й выплачваліся ў адпаведнасьці рэальнаму ўзроўню жыцьця й індэксаваліся кожны квартал паводле росту цэнаў;
- лячэньне й адукацыя сапраўды былі бясплатныя;
- усе дзеці ў школе атрымоўвалі бясплатныя абеды і бясплатныя падручнікі ды іншыя школьныя прылады;
- былі створаныя рэальныя ўмовы для будаўніцтва (атрыманьня) маладымі сем'ямі ўласных дамоў і кватэраў;
- дзяржава адрамантавала шматкватэрныя дамы, асабліва інтэрнаты, бо ў час «прыхватызацыі» вы былі падманутыя;
- зьняць перашкоды ў гандлю зь Беларусьсю, Расеяй і Украінай;
- Стварыць у Нова-Вільні свабодную эканамічную зону;
- У Нова-Вільні быў адрамантаваны й пачаў дзейнічаць другі касьцёл;
- У Нова-Вільні была адрэстаўраваная царква, а таксама пашыраныя й спарадкаваныя праваслаўныя могілкі;
- жыхары Літвы пачувалі сябе свабодна й бясьпечна.

***Я прынцыпова не ўваходжу ні ў адну зь існуючых сёньня палітычных партыяў і буду абараняць у Сойме інтарэсы сваіх выбаршчакаў!***


У асяродзьдзі віленскіх беларускіх дзеячоў. Зьлева направа: А. Аўгуліс, В. Стэх, Л. Мурашка, М. Руневіч, Р. Вайніцкі

# Што добра для чалавека — добра

***Са сп. Альфонсасам Аўгулісам мы сустрэліся ў ягоным рабочым кабінэце. Сцэны кабінэта завешаныя творамі жывапісу, габеленамі. Паўсюль – статуэткі, вырабы прыкладнога мастацтва, літоўскага й беларускага. Шмат макетаў і чарцяжоў розных архітэктурных збудаваньняў, што ўказвала на прафэсыйнае зацікаўленьне гаспадара кабінету. І кнігі, кнігі, кнігі... Калі йшоў на спатканьне, думаў, што нарэшце ў нас, у літоўскіх беларусаў, магчыма, зьявіцца свой сапраўдны прадстаўнік у Сойме, палітык, каторы будзе адстойваць нашыя жыцьцёвыя, культурныя, нацыянальныя, грамадзкія інтарэсы, да каго можна будзе зьвярнуцца з «набалелым». Бо, сапраўды, беларусаў у Літве шмат, шмат грамадзкіх арганізацыяў, а вось сваіх палітыкаў, на вялікі жаль, сваёй палітычнай партыі, як у расейцаў ды палякаў, мы ня маем. Але пачаў я сваю гутарку зь іншага. Цікава было даведацца, якія шансы ў незалежнага кандыдата, каторы не ўваходзіць ні ў якую партыю, на што ён спадзяецца ў передвыбарчай кампаніі...***

**– Спадар Альфонсас, вы чатыры гады таму адыйшліся ад вялікай палітыкі, займаліся выключна грамадзкай дзейнасьцю, вялі спакойны лад жыцьця. Што натхніла, падштурхнула Вас зноў заняцца палітыкай самага высокага рангу?**

– Па-першае, я ніколі ад «вялікай» палітыкі не адыходзіўся. Усе гэтыя чатыры гады уважліва сачыў за палітычным жыцьцём Літвы, прыглядаўся, што робіцца знутры партыяў, увогуле, за партыйным жыцьцём, чым дыхае дзяржава, аналізаваў, якім шляхам ідзе нашая краіна й нашыя бліжэйшыя суседзі: Беларусь, Украіна, Расея, Латвія, Эстонія, Польшча. У часе, калі я быў актыўным палітыкам, шмат якія партыйныя босы былі, мякка кажучы, незадаволеныя маімі выступленьнямі, у якіх я не пагаджаўся зь існуючай палітыкай, казаў, што мы павінныя наладжваць добрасуседзкія дачыненьні ня толькі з заходнімі, але й з усходнімі краінамі, каб усё рабілася дзеля таго, каб добра было Літве, а ня нейкім іншым дзяржавам. Канкрэтна, калі я быў паслом, я публічна выступаў за тое, каб быў свабодны праезд у Беларусь, хаця-б такі візавы рэжым, які цяпер існуе ў нас з Калінінградзкай вобласьцю. У нас-жа зь Беларусьсю самая працяглая мяжа і больш мільёна сваяцкіх сувязяў! І ня трэба перашкаджаць людзям езьдзіць на пагасьціны й на дапамогу да родных і блізкіх, прывозіць з радзімы прадукты харчаваньня, каторыя для многіх жыхароў Віленшчыны ёсьць вялікая падпора ў іхным цяжкім цяпер жыцьці.

**– Такім чынам, тое, што вы ідзеце на выбары як незалежны кандыдат ёсьць не выпадковасьць?**

– Наадварот. Гэта цалкам прадуманы крок. Лічу, што сёньня ў нас няма сапраўдных партыяў, каторыя клапаціліся-б не пра свае партыйныя інтарэсы, а пра дабрабыт простага народу. Ёсьць прыгожыя назвы партыяў, выдатна распрацаваныя праграмы, але няма ў іх сапраўднай жыцьцёвай філязофіі й мудрасьці. Гэтае добра бачнае тады, калі раптам пасварацца два партыйных лідары й кожны зь лёгкасьцю стварае сваю партыю, нібыта можна падзяліць непадзельнае. Усе ў нас партыі займаюцца выключна ўнутранымі праблемамі й непатрэбнай «грызьнёй». І надалей яны замест жыцьцёва важных для Літвы й нашага народу праблемаў будуць грызьціся паміж сабой. Таму я свядома не жадаю ўваходзіць ні ў якую партыю, хаця да мяне, зь вядомых прычынаў, не аднаго разу зьвярталіся з прапановамі і «левыя», і «цэнтрысты», і «правыя» і Бог ведае, хто яшчэ.

**– Ці можна сёньня нешта ў Сойме зрабіць добрага, калі пройдзеш туды як незалежны дэпутат? Без партыйнай падтрымкі?**

– Можна, таму што кожны член Сойму мае права ініцыяваць новыя законы, пераконваць іншых дэпутатаў у сваёй праваце. А калі спатрэбіцца, выйсьці да людзей, да сваіх выбаршчыкаў. Сёньня ў нас у краіне вельмі шмат людзей, каторыя бескарысьліва хочаць дапамагчы дзяржаве, усім людзям, суседзям, каб жыцьцё нашае было годнае, каб мы жылі, як у заможных эўрапэйскіх краінах. Ім патрэбны толькі лідар, чалавек, вакол якога яны маглі-б згуртавацца, які не баяўся-б, што яго будуць біць. І я ў выпадку майго абраньня буду імкнуцца стаць гэткім лідарам. Зрэшты, я й цяпер дапамагаю людзям, чым магу. Дзякуючы маіх захадам, адкрытыя культурныя нацыянальныя цэнтры ў маіх родных Гярвятах (літоўскі) і ў Салечніках (беларускі). У Савецку (Калінінградзкая вобласьць) пабудаваны касьцёл, а ў Сейнах (Польшча) – Дом культуры.



На радзіме ў Беларусі

**– Вы выходзец зь беларуска-літоўскага памежжа. Зараз вось вольна размаўляеце са мной па-беларуску. Перакананы, што вы добра ведаеце праблемы такіх самых выхадцаў зь Беларусі, як Вы, дый, наогул, праблемы рэгіёнаў, правінцыі...**

– Так, у гэтым заключаюцца мае самыя ўлюбёныя жыцьцёвыя й навуковыя інтарэсы. Часам шкадую, што не атрымаў грунтоўнай гуманітарнай падрыхтоўкі, ня стаў дасьледаваць этнакультуру літоўскіх рэгіёнаў, памежжа, асабліва – літоўска-беларускага, дзе нарадзіўся й вырас. Нашыя-ж народы, літоўскі й беларускі, стагодзьдзямі жылі ў адной краіне, у Вялікім княстве Літоўскім... Падчас маёй працы ў Вярхоўным Савеце Літоўскай Рэспублікі з маёй ініцыятывы была арганізаваная Камісія рэгіянальных праблемаў, Дэпартамант наыянальнасьцяў. Іхнія статуты дый шмат якія праграмы, паводле якіх яны дзейнічаюць, напісаныя маёй рукой.

**– Беларусы Літвы сёньня ня маюць сваёй палітычнай партыі, якая-б адстойвала нашыя нацыянальныя й сацыяльныя інтарэсы. Мы ведаем Вас як вялікага прыхільніка беларушчыны, як годнага й шчырага чалавека, як нашага земляка, які шмат ужо добрага зрабіў для тутэйшых беларусаў. У чым Вы будзеце нам дапамагаць у выпадку абраньня?**

– Трэба прызнаць, што мы жывем цяпер хоць і ў дэмакратычнай, але ў пакуль што беднай краіне, дзе галоўная праблема беспрацоўе. І асабліва яна тычыцца нелітоўцаў, у тым ліку беларусаў. Таму я ў сёньняшняй сытуацыі на першае мейсца стаўлю эканамічныя й сацыяльныя праблемы. Буду імкнуцца, каб кожны меў работу – і не паводле нацыянальнага паходжаньня, а паводле сваіх прафэсыйных здольнасьцяў і адукацыі. Што тычыцца праблемаў нацыянальных, дык я буду па-ранейшаму рабіць усё, каб прадстаўнікі ўсіх народаў Літвы пачувалі сябе тымі, кім яны зьяўляюцца, і ганарыліся гэтым. Я буду ўмацоўваць нацыянальныя культурныя асяродкі, школы, факультэты ў ВНУ, нацыянальныя газэты, тэлебачаньне ды іншае. Адным словам, трэба ў Літве наладзіць такое жыцьцё, каб беларус з гонарам мог сказаць: «Так, я ёсьць грамадзянін Літвы, але я беларус!» Канкрэтна, я буду садзейнічаць адраджэньню Беларускага музэю, заснаванага ў Вільні славутым беларускім дзеячом Іванам Луцкевічам. Беларускі музэй прайснаваў ажно да аканчаньня вайны й быў зьліквідаваны пры Саветах. Таксама мару, каб адрадзілася беларуская духам і целам гімназія, што месьцілася ў Базыльянскіх мурах... Зразумела, буду дамагацца, каб беларускія арганізацыі мелі прыстойныя памешканьні, прыстойнае дзяржаўнае забясьпечаньне, прафэсыйна займаліся грамадзкай і нацыянальнай справай, дапамагалі сваім супляменьнікам, асабліва – творчай інтэлігенцыі, ад якой, уласна, і залежыць разьвіцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці. Яшчэ раз падкрэсьлю, што ўсё гэта павіннае трымацца не на аматарстве, а на прадуманай нацыянальнай палітыцы дзяржавы, на дзяржаўным фінансаваньні.

**– Вы кандыдат ад Новай Вільні, вельмі спэцыфічнага гарадзкога мікрараёну паводле ўсіх парамэтраў, і нацыянальных, і сацыяльных. А ці добра Вы ведаеце, чым і як жывуць жыхары Вашай выбарчай акругі?**

– Нова(Вільня – гэта прамысловая зона. Там працавала раней шмат люду, у тым ліку й выехаўшага на працу зь Беларусі. Цяпер усе нававіленскія прадпрыемствы стаяць. Людзі ня маюць заробкаў, працоўных мейсцаў – вось галоўная праблема, якую найперш трэба вырашыць. А яе можна вырашыць, стварыўшы ў Нова-Вільні свабодную эканамічную зону, бо інвестыцыі ў свабодную эканамічную зону не абкладаюцца падаткамі. Для ейнага стварэньня ў Нова-Вільні ёсьць уся неабходная інфраструктура: аўтаномная кацельная, свая вада, закальцаваная электрасыстэма, шмат прадпрыемстваў, свая чыгуначная станцыя, склады і пад. А самае галоўнае высокакваліфікаваныя кадры.

Так склалася, што ў Вільні сёньня пражывае ці ня 70% выхадцаў зь Беларусі. Натуральна, што апрача праблемаў сацыяльных, тут трэба вырашыць і нацыянальную праблему: адкрыць пачатковыя беларускія школы, хаця-б адну сярэднюю, зрабіць культурны беларускі цэнтар, пашыраць беларускі друк, ладзіць беларускія народныя й нацыянальныя сьвяты, адраджаць этнакультуру, рамёствы Віленшчыны й г. д.

Для многіх палітыкаў і чыноўнікаў Нова-Вільня – забыты Богам, нікому непатрэбны раён. Раён прамысловы, дзе жывуць самыя «бунтаўшчыкі». Калі я ўзгадваю сваё дзяцінства, юнацтва, дык узгадваю Новую Вільню, бо кожнага разу, едучы ў Вільню, я праяжджаў цераз гэтае цудоўнае мястэчка. Я з усёй шчырасьцю магу сказаць, што прыгажэйшага мейсца (пасьля, зра-



Пасол Беларусі ў Літве сп. Г. Вайтовіч і пасол Літвы ў Беларусі сп. А. Аўгуліс

# й для дзяржавы!



Сп. А. Аўгуліс і сакратар газэты Рунь П. Саўчанка

зумела, маіх родных Гервятаў) для мяне няма. Гэта пералескі, пагоркі, рака пасярод гораду, паляны. Раён фантастычна прыгожы! І я, калі мяне абяруць у Сойм, буду рабіць усё дзеля адраджэньня й працьвітаньня гэтага цудоўнага мікрараёну.

***Спадар Альфонсас Аўгуліс дастаў з шуфляды стала пульхную папку. Сказаў з усьмешкай: «Табе для паўнаты карціны будзе цікава перагледзіць гэта». Пакуль я пераглядаў ейнае зьмесьціва, гаспадар кабінэту наліў мне чарку настоенай на нейкіх зёлках гарэлкі. Я выпіў. Гарэлка была моцная, духмяная, самаробная. Мой суразмоўнік хітра ўсьміхнуўся:***

– Пара ў Літве ўстанавіць закон, каб людзям дазвалялася вырабляць віно з садавіны, гародніны, збожжа, якое яны самі вырошчваюць. Зразумела, вырабляць выключна для ўласнай патрэбы. У Балгарыі, Румыніі, Швэцыі ды іншых краінах гэта дазваляецца, і й людзі там не перапіліся. Трэба сказаць, што сваё віно й гарэлка і для здароўя лепшыя, і дзяржава з гэтага не зьбяднее – яе будзе ўжываць толькі той, хто мае сваю гаспадарку. Мне сьмешна, калі чалавек з сваёй садавіны ці ягадаў робіць віно, а яму кажуць, што ён злачынца.

***Папка сапраўды была цікавая. Фатаздымкі, граматы й медалі за спартовыя дасягненьні (вольная барацьба), шмат чаго іншага. Асабліва ўразіла вышытая золатам грамата-багаслаўленьне ад Папы Рымскага Яна Паўла II, датаваная 2000-ым годам. Запытаўся, за што сп. Аўгуліс атрымаў папскае багаславеньне.***

– Напэўна, за пабудову храма ў Савецку (Tilžė). Каб ты толькі ведаў зь якой цяжкасьцю ўдалося яго там паставіць. І будаваўся ён ня ў самыя лёгкія часы. Помню, як мы сабраліся з тамтэйшымі людзьмі на камянях, на падмурку, і прасілі ў Бога дапамогі ў будаўніцтве. І, напэўна, сам Бог апякаваўся мной, бо мяне ніколі не пакідала ўпэўненасьць, што мы гэты храм дабудуем. (Першы, дарэчы, ў пасьляваенны час у Калінінградзкай вобласьці). Мая перакананасьць і вера, відаць, перадавалася й іншым.

**– Што-ж, няхай уся Літва станецца для Вас такім Божым храмам. А цяпер яшчэ некалькі канкрэтных пытаньняў. Перад сустрэчай, прачытаў на плякаце пункты з Вашай перадвыбарчай праграмы. Яны тычацца самых розных сфэраў жыцьця, я-б сказаў, жыцьця простых людзей. Ці ёсьць у праграме нешта, што аб'ядноўвае яе ў адно цэлае? Як бы Вы коратка сфармулявалі самае галоўнае, што ў ёй ёсьць?**

– Гэта – само жыцьцё! Усё, што напісана на тым плякаце, вынікае з маіх уласных пачуцьцяў, жыцьцёвых выпрабаваньняў і досьведу, з жыцьця й пачуцьцяў маіх суседзяў, з таго, што я бачу й пра што мне гавораць нашыя людзі. Калі там яшчэ чагосьці няма, дык мае выбаршчыкі падкажуць мне. Сваю праграму я сфармуляваў-бы адным сказам: «Што добра для чалавека –добра й для дзяржавы!». Чалавек, ягонае жыцьцё ёсьць самая вялікая дзяржаўная каштоўнасьць. А ў нас пакуль што ўсё перакручана дагары нагамі. На першым мейсцы гэтак званыя дзяржаўныя (і партыйныя) інтарэсы, а пра чалавека думаюць мала.

**– Што вы можаце дадаць да Вашай сухой і кароткай біяграфіі, надрукаванай у передвыбарчым плякаце?**

– Я, як кажуць, на ўласным гарбу выпрабаваў усё ў жыцьці, працаваў і вясковым пастушком, і міністэрскім чыноўнікам. Але ў міністэрскіх чыноўніках я не прыжыўся, бо заўжды адстойваў інтарэсы простых людзей, зь якіх выйшаў. Напэўна, паводле свайго жыцьцёвага досьведу, прафэсійных навыкаў, розуму й энэргіі я мог-бы ўжо сёньня стаць і міліянэрам, і вялікім начальнікам, аднак я заўсёды бачыў у кожным чалавеку свайго суседа, таварыша, сябра, земляка. Мой сьвет напоўнены жывымі галасамі, пачуцьцямі, эмоцыямі, страсьцямі, патрэбамі жывых людзей. Ён дыктуе мне, як сябе паводзіць, як дзейнічаць. І такім ён застанецца да канца майго жыцьця. Дзеля гэтага я шмат каму не падабаюся, і з той самай прычыны ў мяне шмат сяброў і прыхільнікаў.

**– Што Вы скажаце на заканчэньне?**

– Скажу вельмі простую фразу: «Я хачу служыць людзям». Калі я прахожу цераз Вострую Браму, я ўвесь час прашу ў Бога: «Божа, дай мне шчасьця, каб я мог годна служыць людзям, каб яны мяне разумелі!»

*Гутарыў* **Павал Саўчанка**

**Дарагія суайчыньнікі!**

Беларускі каталіцкі касьцёл Сьв. Барталамэя ў Вільні праз вялікія расходы на ягоны рамонт апынуўся ў дужа складаным фінансавым становішчы. Не зважаючы на тое, што шмат ужо чаго зроблена й гэта весяліць вока кожнага прыхаджаніна, мы сумуем, бо ведаем, што пазыкі нашыя складаюць сёньня $ 15 000. Трэба тэрмінова дапамагчы адзінаму ў Вільні (і Літве) беларускаму касьцёлу! Хай дапаможа вам Бог!

***Беларуская каталіцкая грамада***

## Чарговае «Сьвята беларускай песьні»

зладзілі ў нядзелю, 20 жніўня, Згуртаваньне беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Літвы й Беларускае таварыства Сьвянцянскага раёну. Апрача беларускіх сьпевакоў і ансамбляў з Літвы у сьвяце браў удзел прафэсыйны гурт з Паставаў «Паазер'е». Выступленьні артыстаў адбываліся ў перапоўненай залі Дому культуры ва ўтульным мястэчку Сьвянцяны (Швянчоніс). Было відаць, што тутэйшае насельніцтва «згаладнела» па беларускай, роднай ім, песьні, хаця бальшыня прысутных уважала сябе за палякаў. Мне асабіста, апрача «Паазер'е» запомніліся чыстыя галасы дзяўчатаў з хору «Спадчына» (Друскенікі) й песьня-раманс «Краўчыха Ксеня», якую паводле народнай песьні апрацавала й выканала настаўніца сьпеву Віленскай беларускай школы імя Ф. Скарыны Валянціна Кавальчук. На сьвяце прысутнічаў амбасадар Беларусі ў Літве сп. Уладзімір Гаркун. Аўтобус для даезду ў Сьвянцяны беларускай віленскай грамадзе прадаставіў вядомы бізнэсовец, прыхільнік беларушчыны сп. Міхась Руневіч.

**А. М.**



# Навіны зь Беларусі

### Прыгавор М. Чыгіру

Менскі абласны суд прыгаварыў былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра да трох гадоў пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай прыгавору на два гады. Тым самым, спадзяваньне беларускай апазыцыі на Чыгіра як на адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў не спраўдзяцца: былому прэм'еру на пяць год забаронена займаць дзяржаўныя пасады. Вядома, прыгавор будзе абскарджаны ў Вярхоўным судзе, аднак ужо зараз беларускія ўлады далі зразумець - што бадай адзіны на сёньня чалавек, які рэальна мог бы канкураваць з Лукашэнкам на будучых прэзыдэнцкіх выбарах, пазбаўлены магчымасьці прымаць у іх удзел. Ад Вярхоўнага суда застаецца чакаць ужо вядомага „справядлівага" прысуду.

### У Віцебску зноў зьняважаны бюст Суворава

У Віцебску зноў адбылося чарговае злачынства - нехта з „нячэсных" запэцкаў фарбамі бюст Суворава. Толькі-толькі гэты бюст паставілі каля ваенкамату на той самы пастанамэнт, адкуль паўтары гады таму знік ягоны папярэднік „Сувораў-1". Віцебскія дзяржаўныя газэты шырока спавяшчалі, што новы „Сувораў-2" зь якаснага бетону вагою ў 315 кг быў зроблены на грошы, сабраныя работнікамі таго самага ваенкамату. Але ў горадзе дагэтуль ходзяць чуткі, што ў іх знайшоўся спонсар, які даў на Суворава грошы, каб „адкасіць" ад войска.

### Улады супраць СМІ

Прэзыдэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) Жана Літвіна лічыць, што бліжэйшым часам стасункі паміж уладамі Беларусі ды незалежнымі СМІ абвострацца. Паводле ейных словаў, гэта звязанае найперш з выбарамі ў парлямант і жаданнем улады ўтрымаць пад сваім кантролем інфармацыйную прастору. Прэзыдэнт БАЖ нагадала, што перад рэфэрэндумам 1995 г. быў закрыты 8-ы незалежны канал тэлебачаньня, перад рэфэрэндумам 1996 г. на працягу 24 гадзінаў была закрытая незалежная радыёстанцыя „101,2". Цяпер жа ў кулуарах улады падрыхтаваныя папраўкі да закону „Аб дркуку", з дапамогай якіх праз некалькі месяцаў стане значна прасьцей расправіцца зь недзяржаўнай прэсай. Згодна з новым законам, рэдакцыі СМІ прыраўнаныя да суб'ектаў гаспадарыньня і падпадаюць пад дзеяньне дэкрэта прэзыдэнта „Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі суб'ектаў гаспадарыння". У выніку газэту можна будзе закрыць нават без судовых разбораў.Акрамя гэтага ўлады працягваюць актыўна выкарыстоўваць і звыклыя рычагі ўдушэньня незалежных СМІ: вынясеньне папярэджаньняў, судовыя іскі, затрыманьне й запужваньне журналістаў, эканамічныя санкцыі.

### Магнаты ВКЛ

З 16 па 18 чэрвеня ў Слоніме адбылася навукова-практычная канфэрэнцыя „Магнаты Вялікага княства Літоўскага як мэцэна-

*Працяг на старонцы 4*

ты культуры". Дарэчы, месца ейнага правядзеньня выбранае невыпадкова. Менавіта гісторыя Слоніма звязаная зь дзяржаўна-грамадзкай і культурнай дзейнасьцю патомных магнатаў Сапегаў і Агінскіх. З дакладамі выступілі навукоўцы зь Беларусі, Польшчы, Расеі, Літвы і Украіны. А сам аўтар ідэі і каардынатар праекту правядзеньня канфэрэнцыі Аляксей Хадыка абяцаў прывезьці зь менскага музею невядомы партрэт Льва Сапегі, напісаны яшчэ пры ягоным жыцьці й які яшчэ нідзе не друкаваўся. На жаль, нашай рэдакцыі пакуль невядома, ці здзейсніў ён сваё абяцаньне.

### Прапанова Адама Мальдзіса

Вядомы навуковец Адам Мальдзіс падчас сустрэчы беларускіх пісьменьнікаў з Уралам Латыпавым зьвярнуўся да яго з прапановай пераносу загараднай рэзыдэнцыі Лукашэнкі ў сталічны парк Лошыцу, дзе захавалася старая панская сядзіба.

Як вядома, рэзыдэнцыя „Драздоў" пабудаваная на месцы былога канцлягеру. Пераўтварэньне яе ў мэмарыял ахвяраў нацызму дазволіла-б патлумачыць замежным паслам, чаму іх два гады таму прымусілі зьехаць з Драздоў.

### Колькі зубраў у Беларусі

Статак беларускіх зубраў удвая перавышае колькасьць гэтых рэдкіх жывёлаў у лясах Польшчы. З словаў міністра прыродных рэсурсаў і навакольнага асяродзьдзя Беларусі Міхаіла Руса да 2001 г. статак зубраў мае дасягнуць пад 500 галоваў. Гэтых жывёлаў, стаўшых адным з нацыянальных сымбаляў нашае краіны, сёньня трымаюць у шасьці запаведніках Беларусі, аднак самы значны генэтычны статак захоўваецца ў нацыяльным парку „Белавеская пушча". Сёлета мяркуюць рассяліць зубраў яшчэ ў трох запаведніках краіны, каб у бліжэйшыя гады жывёла перастала лічыцца рэдкай і была выключана з „Чырвонай кнігі".

### Дзіцячы хоспіс у Менску

У Менску зьявіўся дзіцячы хоспіс - навіна, назваць якую добрай не паварочваецца язык, але тым ня менш... Дзённы пансіянат для невылечна хворых дзяцей пакуль што адзіны ў Беларусі. Ягоная дырэктарка Ганна Гарчакова распавядае, што папярэднія пяць гадоў дзяцей з анкалягічнымі захворваньнямі ўрачы і сацыяльныя работнікі штодзень наведвалі дома. Зараз гэтыя дзеці маюць магчымасьць знаходзіцца на працягу дня у адрамантаваным дзіцячым садку. Апрача таго, што яны ўвесь час будуць пад наглядам мэдыкаў, бацькі змогуць праводзіць зь імі столькі часу, колькі ім дазваляе праца, і нават проста на кухні хоспіса прыгатаваць ім звыклую ежу. У хоспісе працуюць валанцёры, галоўная мэта якіх ня толькі клопат пра дзяцей, але яшчэ і псіхалягічная дапамога бацькам, якім наканавана ў хуткім часе перажыць непазбежную смерць свайго дзіцяці. Адкрыцьцё хоспіса - заслуга не дзяржавы, а міжнароднай дабрачыннай арганізацыі „Ротары-Клуб-Х".

### У Чэрыкаве выкарыстоўваюць радыёактыўную маёмасьць

Чэрыкаўскія ўлады дазволілі разбіраць і нанава выкарыстоўваць маёмасьць, якая да сёньня заставалася некранутай у забруджанай радыяцыяй зоне. 10 гадоў тут трымалі адмысловыя атрады аховы, дасылалі спэцыялістаў, каб бяз шкоды наваколью ўтылізаваць брудную маёмасьць. Але нехта аддаў загад: „Радыяцыя тут больш не жыве!" і, стаўшыя ў адзін час „чыстымі", рэчы з забруджаных тэрыторыяў пачалі распаўзацца па Беларусі.

### "Чарнобыльская мадонна" ў Нінбургу

У нямецкім горадзе Нінбургу адкрыты помнік „Чарнобыльская мадонна". Стварыў манумент на грошы мяйсцовых мэцэнатаў віцебскі скульптар Іван Казак, аўтар помніка Марку Шагалу ў Віцебску.

### Антоні Радзівіл назаўзды вярнуўся ў Нясьвіж

8 чэрвеня ардынатар Нясьвіжу, прадстаўнік роду некаранаваных каралёў ВКЛ Антоні Радзівіл назаўжды вярнуўся ў Беларусь. Вурна з ягоным прахам дастаўленая з Англіі ў Беларусь. Рашэньне аб пахаваньні на беларускай зямлі, а не ў Францыі альбо Іспаніі, дзе таксама знаходзяцца буйныя ўсыпальніцы гэтага роду, Антоні Радзівіл прыняў сам. У цяперашніх палітычных умовах жаданьне князя назаўжды застацца ў Нясвіжы здаецца трохі дзіўным, аднак менавіта яно сведчыць аб тым, што нашчадка беларускіх магнатаў не на словах клапаціў сучасны лёс неафіцыйнай сталіцы беларуска-літоўскіх зямель. Нават пасля сваёй сьмерці князь здолеў дасягнуць таго, што ніяк не здольныя зрабіць беларускія ўлады - прыцягнуць інвестыцыі да горада-музею Нясьвіжа. Завяшчаньне Антонія Радзівіла паспрыяла таму, што на рэстаўрацыю ўсыпальніцы польскае міністэрства культуры вылучыла 10 тысяч даляраў.

### Рэйд па газетных кіёсках

Сябры „Маладога фронту" правялі рэйд па газэтных кіёсках „Белсаюздруку" й „Белпошты". Іх мэтай было высьвятленьне пытаньня, наколькі абгрунтаваныя заявы прадстаўнікоў Дзяржкамдруку аб тым, што наклады недзяржаўных газэтаў, напрыклад „Нашай нівы" і „Беларускай маладзёжнай", разыходзяцца надта дрэнна, а ў некаторых мясьцінах не набываюцца ўвогуле. Падставай для рэйду стала канфліктная сытуацыя вакол „Беларускай маладзёжнай", якой чыноўнікі пагражаюць закрыцьцём з прычыны благой прадавальнасьці. Вынік перавысіў усе чаканьні: паводле зводкі, якую склалі сябры „Маладога фронту", у большасьці кіёскаў газэты хаваюць на запасныя паліцы адразу пасля атрыманьня. У некаторых зь іх пасля настойлівых просьбаў пашукаць свежую газэту прадаўцы выцягвалі яе,напрыклад, з... кардонак з заколкамі. Іншым часам адказ прадаўцоў гучаў так: „Няма такой газэты". Праўда, некалькімі хвілінамі пазьней яна ўсе ж такі адшукалася. Цяжка ўявіць, што падобнае становішча незалежным выданьням прадаўцы кіёскаў ствараюць з уласнай „дабраахвотнай" ініцыятывы.

### «Не расстанусь с комсомолом...»

Беларускі саюз моладзі, арганізацыя, якая лічыць сябе пераемнікам ЛКСМБ (хаця ў Беларусі ёсьць «сапраўдны» камсамол, які ад савёй назвы не адмаўляўся), зь вялікай помпай пачала рыхтавацца да нібыта свайго 80-гадовага юбілею, які адбудзецца ў верасні. Дзіўнай выглядае гэтая падрыхтоўка на фоне таго, што БСМ сёньня нічога не вырашае, знаходзіцца ў няміласьці ў прэзыдэнта й проста адсоўваецца на задні плян больш маладым і больш нахабным БПСМ. Але першае арганізацыйнае паседжаньне адносна падрыхтоўкі святкаваньня 80-ых угодкаў камсамолу ўжо адбылося. Былі прызначаныя чатыры рабочыя групы, а таксама прынятае рашэнне аб стварэнні выставы гісторыі ЛКСМБ-БСМ, аб арганізацыі фэстываляў, летнікаў для валанцёраў і г.д. Мяркуецца, што будучае святкаваньне павіннае ахапіць усю моладзь Беларусі — калі, канечне, дзяржава знойдзе сродкі для арганізацыі, якую «дзяржаўны» БПСМ лічыць сваім канкурэнтам.

### Іканапіс — рукамі маладых

Барысаўская царква Нараджэння Хрыстова, якая зусім нядаўна была адноўленая на месцы храма з такой самай назвай, разбуранага ў савецкія часы, будзе ўпрыгожвацца ў тым ліку й працамі наведнікаў барысаўскай студыі іканапісу. Такое рашэньне было прынятае літаральна днямі. Некалькі гадоў таму муж і жонка, мастакі Людзьміла Макеева і Аляксандр Малчанаў, вырашылі стварыць уласнымі высілкамі студыю іконы для дзяцей. Калі студыя пашырылася й атрымала сваё памяшканьне, яе працай зацікавіліся і дарослыя, таксама сталі прыходзіць і вучыцца маляваць іконы. Дакладней, ня столькі вучыцца тэхнікі іканапісу, колькі разумець той унутраны стан, які быў уласцівы сапраўднаму іканапісцу. Паколькі шмат хто з удзельнікаў студыі сёньня працуе як сапраўдны прафэсыянал, студыйцам было вырашана даверыць роспіс іканастасу ў ніжнім прэстоле барысаўскай царквы Нараджэньня Хрыстова.

### Заняпад беларускай рэклямы

Гран-пры міжнароднага фэстывалю рэклямы „Залаты воўк", які ўжо чацьверты раз прашоў у Менску, прысудзілі турыстычнаму буклету пра Санкт-Пецярбург - радзіму цяперашняга расейскага прэзыдэнта. Фэстываль засьведчыў глыбокі заняпад беларускай рэклямы. Што цалкам зразумела: якая эканоміка такая й рэкляма. Беларускім дызайнэрам папросту няма чаго рэклямаваць. Адзінае, што ў беларускай краіне сёньня робіцца на сусьветным узроўні - гэта гадавыя справаздачы акцыянэрных банкаў.

### Прэмія для студэнтаў

Найбуйнейшы ў Беларусі недзяржаўны банк „Приорбанк" заснаваў прэмію для студэнтаў факультэту журналістыкі БДУ за найбольш цікавыя асьвятленьні ў друку фінансавых праблемаў краіны. Пераможцаў конкурсу чакаюць 500 даляраў ЗША (для параўнаньня, сёньняшняя студэнцкая стыпэндыя складае прыблізна 6-7 даляраў ЗША) і падарожжа ў адну з Эўрапейскіх краінаў. Прысуджацца прэмія буддзе штогод 20 студзеня ў гадавіну заснаваньня банка.

*Падрыхтаваў* **Віталь Рамашкевіч**

### Пра злодзея - "даішніка"

У Воршы супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы старшы-лейтэнант Дарожнай аўтаінспэкцыі (ДАІ) за ўдзел у злачыннай групе, якая спэцыялізавалася на крадзяжы машынаў. Ён даваў «наводкі», паведамляў злодзеям аб кожным кроку супрацоўнікаў міліцыі, сам удзельнічаў у крадзяжах. Мэханізм-жа продажу крадзеных аўта быў выдатна наладжаны: за лічаныя гадзіны машыны разбіраліся й зьнікалі на рынках запчастак. Высьветлілася таксама, што некаторыя запчасткі затрыманы «даішнік» выкарыстоўваў ва ўласнай машыне. Цяпер уся група варшанскіх зламысьнікаў затрыманая.

### Крадзёж дроту

У той самай Воршы дзейнічае яшчэ адна група зламысьнікаў, якая спэцыялізуецца на крадзяжы дроту з электрычных ліній і прыносіць шкоду ня толькі тысячам людзей, але й дзяржаве. Так летась злодзеі ўкралі 1,2 т. алюміневага дроту, а сёлета, толькі за першы квартал — 1,8 т. Што й казаць, апэтыт у злачынцаў расьце. Апошні выпадак крадзяжу адзначаны ў вёсцы Пуглеі: там злодзеі зьнялі дрот са слупоў, якія йшлі да вадакачкі. Вяскоўцы некалькі судняў жылі без вады.

### Нашыя лётчыкі ў Вязьме

У аэраклюбе г. Вязьма (Расея) практыкуюцца курсанты авіяцыйнага факультэту Ваеннай акадэміі РБ. Нашыя хлопцы асвойваюць вучэбна-баявы самалёт Л-39 — больш складаную мадэль, чым тыя апараты, каторыя яны паднімалі ў неба Беларусі. Вяземскі клюб ведамы, як адзін з найлепшых падрыхтоўкай лётнага саставу. Аднак не апошнюю ролю тут адыйграў і эканамічны фактар: адна гадзіна лётнага часу ў Вязьме каштуе ў тры разы таньней, чым, напрыклад, у суседняй Украіне.

### Грашовая кампэнсацыя былым "остарбайтарам"

Грамадзяне Беларусі, якія сталіся ахвярамі генацыду падчас Другой сусьветнай вайны, змогуць атрымаць грашовую кампэнсацыю ўжо сёлета. Адпаведную пастанову прыняў напрыканцы ліпеня ў Бэрліне Камітэт фонду «Памяць, адказнасьць, будучыня», заснаваны ўрадам ФРГ й нямецкімі прадпрыймальнікамі для вырашэньня пытаньня выплаты кампэнсацыі з боку Германіі ахвярам прымусовай працы ў часе вайны. Такім чынам, у Беларусі кампэнсацыю атрымаюць 170 тыс. былых падняволеных рабочых, што засталіся ў жывых.

### Сьмерць ад восваў

Для аднаго жыхара Г. Луненца , які бавіў час на рацэ Прыпяць, гэтая рыбалка аказалася апошняй. Не, ён не ўтапіўся: небараку... пакусалі шэршні. Яны атакавалі лунінчука, калі той, лазячы ў прыбярэжным хмызьняку, наступіў на іхняе кубло. Для лятальнага выхаду хапіла ўсяго некалькі ўкусаў. Мужчына сканаў на мейсцы ад анафілактычнага шоку, выкліканага шэршневым ядам.

### Штосьці не падзялілі

Штосьці не падзялілі два жыхары зь вёскі Пясевічы Іўеўскага раёну. І вось адзін зь іх, пастанавіўшы адпомсьціць другому, прыхапіў стрэльбу ды зладзіў засаду ў лесе. Але, як на тую бяду, на засаду набрыў тамтэйшы лясьнік зь вёскі Ляжневічы. Лясьнік ад трапнага стрэлу загінуў, а «стралок» апынуўся ў турме.

*Падрыхтаваў* **Зыгмунт Дзякевіч**



*Набліжаюцца выбары ў г. зв. "Палату" -- Нацыянальнае Сабраньне Рэспублікі Беларусь. І вельмі цяжка прагназаваць, як будзе жыць Беларусь пасьля тых выбараў. Па-першае, згодна міжнародным нормам і паняцьцям цяперашняя "Палата" зьяўляецца ва ўсіх дачыненьнях нелегітымнай (незаконнай) і не прызнаецца сусьветнай дэмакратычнай супольнасьцю. Ці не азначае гэта, што й абвешчаныя "Палатай" выбары ад самага пачатку таксама можна лічыць незаконнымі? Зь іншага боку, тая самая "дэмакратычная супольнасьць" (у дадзеным ваыпадку -- гэта самыя розныя струтуры АБСЭ) пасылае ў Беларусь назіральнікаў за выбарамі (няхай сабе й «тэхнічных»), даючы зразумець, што "пасябравацца" з рэжымам Лукашэнкі ўсё-ж магчыма. А гэты жэст зь ейнага боку можна трактаваць па-рознаму. Напрыклад, як таемнае жаданьне «лігітымізаваць» цяперашнюю беларускую ўладу ды нэўтралізаваць беларускую апазыцыю дзеля... А, сапраўды, дзеля чаго? Можа, за ўсёй гэтай "валтузьнёй" крыюцца эканамічныя інтарэсы заходніх краінаў? Напрыклад, інтарэсы Нямеччыны, якая найбольш глыбока сёньня пранікла на беларускі рынак? Можа нямецкім прадпрыймальнікам у будучыні лепш мець справу з ужо "праверанымі" імі беларускімі ўладамі, чым з апазыцыяй, ад каторай невядома чаго можна чакаць у будучыні? А раптам зь ейным прыходам да ўлады ў Беларусі зьменяцца палітычныя ды эканамічныя прыарытэты?*

*Але-ж і сама беларуская апазыцыя раскалолася. Знайшліся такія партыі, каторыя парушылі папярэднія пагадненьні ды пастанавілі ўдзельнічаць у выбарах (ці то цалкам усёй партыяй, ці то, маўляў, сама партыя ў выбарах ня ўдзельнічае, але забараніць асобным ейным членкам удзельнічаць у выбарах нельга, бо інакш парушаюцца правы чалавека й свабода выбару!). Зьдзіўляе, як гэтыя "адступнікі" так хутка забыліся на тое, што галоўнай умовай удзелу ў выбарах было патрабаваньне рэфармаваньня "Палаты" ў бок наданьня ёй большых паўнамоцтваў і незалежнасьці ад прэзыдэнцкіх структураў. Відаць, «воля да ўлады», хай сабе й эфэмэрнай, стаіць у іх на першым мейсцы. Адна толькі Амэрыка трымаецца ў дачыненьні да рэжыму Лукашэнкі строга й прынцыпова. Здаецца, ня будзь за плячыма кволай беларускай дэмакратыі суворага «дзядзькі Сэма», даўно ўжо ўсё паляцела-б у тартарары... Зрэшты, ня ўсё. Ёсьць больш трывалыя каштоўнасьці. Нацыянальная сьвядомасьць і нацыянальны гонар, напрыклад. А яшчэ – нежаданьне быць рабом, прага жыць у сваёй вольнай краіне й быць там гаспадаром. А з гэтымі «нязручнымі» катэгорыямі ні лукашэнкаўска-пуцінскаму рэжыму, ні нашым заходнім «дабрадзеям» так хутка справіцца ня ўдасца, а бадай што – ніколі... І ўсё-ж, назіраючы за "валтузьнёй" ў "шчыльных радох" нашай слаўнай апазыцыі, так і хочацца сказаць словамі Гогаля: «Сумна жыць на гэтым сьвеце, панове!»... Але дамо слова Старшыні Вярхоўнага Савету сп. Сямёну Шарэцкаму.*

# Выбары ці... легітымізацыя рэжыму?

Свае адносіны да выбараў у гэтак званую "Палату" я ўжо выказваў у інтэрвію газэце "Народная воля" (15 чэрвеня 2000 г). У прыватнасьці, у гэтым інтэрвію падкрэсьлівалася, што Прэзідыюм Вярхоўнага Савету лічыць рэальным выхадам з сытуацыі правядзеньне дэмакратычных выбараў Парляманта й Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь пры выкананьні наступных умоваў:

**1.** Аднаўленьне заканадаўчых функцыяў Парляманту ў адпаведнасьці з палажэньнямі, замацаванымі ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г.

**2.** Прывядзеньне выбарчага заканадаўства ў адпаведнасьць з нормамі міжнароднага права й Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г.

**3.** Доступ да дзяржаўных СМІ прадстаўнікоў апазыцыйных палітычных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў, дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13 скліканьня.

**4.** Спыненьне перасьледу грамадзянаў з палітычных матываў. Прыняцьце вычарпальных мераў у росшуку зьніклых вядомых палітычных дзеячоў.

У інтэрвію я таксама падкрэсліў, што без выкананьня пералічаных умоваў удзел беларускай апазыцыі ў парляманцкіх выбарах будзе толькі садзейнічаць легітымізацыі кіруючага ў краіне рэжыму.

Яшчэ раней падобныя ўмовы ўдзелу ў выбарах былі распрацаваныя і ўзгодненыя паміж прадстаўнікамі апазыцыйных сілаў, прадстаўнікамі існуючага рэжыму ў Беларусі ды кіраўніцтвам Кансультатыўна-Наглядальнай Групы АБСЭ. Зь імі пагадзіліся й прадстаўнікі рабочай Групы АБСЭ ў Беларусі, якую ўзначальвае Адрыян Севярын.

2 ліпеня 2000 г. Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі таксама падцьвердзіў у сваёй рэзалюцыі, што без выкананьня пералічаных умоваў "любыя выбары ператвараюцца ў фарс, удзел у якім для дэмакратычных сіл немагчымы". Больш таго, Кангрэс заклікаў міжнародныя арганізацыі, парламенты і ўрады дэмакратычных краінаў заявіць, што ў выпадку невыкананьня гэтых умоваў выбары ў Беларусі ня могуць быць прызнаныя легітымнымі й дэмакратычнымі.

На жаль, асобныя дэпутаты Вярхоўнага Савету, а таксама некаторыя з тых, хто ўдзельнічаў у Кангрэсе дэмакратычных сілаў Беларусі, празь некалькі дзён пасля яго правядзеньня пачалі заклікаць да ўдзелу ў выбарах, прызначаных нелегітымным рэжымам на 15 кастрычніка ўжо без усялякіх умоваў. А многія зь іх дык і актыўна ўключыліся ў выбарчую кампанію ў якасьці кандыдатаў у дэпутаты. Я ня буду пералічваць іхнія прозьвішчы ды крытыкаваць іхнія дзеяньні. Няхай гэта застанецца на іхнім сумленьні.

Зьдзіўляе іншае. Трэцяя Тэхнічная Канфэрэнцыя АБСЭ ў Вене, якая адбылася 30 жніўня 2000 года, і ў якой прынялі ўдзел прадстаўнікі Дзейнага Старшыні АБСЭ, Парляманцкай Асамблеі АБСЭ, КНГ АБСЭ, Генэральнага Сакратара АБСЭ, Эўрапэйскага Парляманту, Эўрапэйскай Камісіі, Аўстрыйскай дэлегацыі ў АБСЭ, Парляманцкай Асамблеі Савету Эўропы, дэлегацыі Міжпарляманцкай Асамблеі СНД, а таксама прадстаўнікі афіцыйных беларускіх уладаў і Кансультатыўнага Савету апазыцыйных палітычных партыяў, - знайшла нейкі "прагрэс" ва ўсіх чатырох умовах, зьвязаных з арганізацыяй дэмакратычных выбараў. У гэтай сувязі неабходна ўзгадаць, што знікненьне вядомых палітычных дзеячоў, Віктара Ганчара й Юрыя Захаранкі, а таксама Анатоля Красоўскага й Зьміцера Завадзкага адбылося ў пэрыяд правядзеньня трохбаковых паседжаньняў. І ўлады нічога ня робяць ў іх росшуку. Працягваюцца й зьдзекі над сям'ёю Міхаіла Чыгіра. Арыштоўваліся й рэпрэсаваліся іншыя члены апазыцыі. Дык які ж гэта "прагрэс"?! На мой погляд, гэта проста блюзьнерства ў адносінах да сем'яў, родных і блізкіх зніклых і пацярпелых.

Па сутнасці няма ніякага "прагрэсу" і ў адносінах доступу прадстаўнікоў апазіцыі да сродкаў масавай інфармацыі. Бо-ж ці можна лічыць "прагрэсам" тое, што прадстаўнікам апазыцыі даецца магчымасьць выступіць па тэлебачаньні дзве-тры хвіліны, а пасьля напрацягу паўгадзіны прадстаўнікі дыктатарскага рэжыму паліваюць іх брудам?

Ніякіх крокаў ня зроблена і ў адносінах прывядзеньня выбарчага заканадаўства ў адпаведнасць да міжнародных нормаў і да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Ужо ня кажучы пра тое, што няма ніякага падзелу функцыяў паміж уладамі (заканадаўчай, выканаўчай і судовай): "Палата" параненйшаму застаецца кішэнным парлямантам дыктатарскага рэжыму.

Мабыць, усё гэта й прымусіла прадстаўнікоў эўрапэйскіх структураў прызнаць, што гэты "прагрэс" усё-ж не дастатковы для задавальненьня "міжнародна ўзгодненых крытэрыяў". Дык тады незразумелым зьяўляецца рашэнне аб пасылцы тэхнічнай місіі на выбары ў Беларусь. Тым больш, што, як і трэба было прадбачыць, гэтае рашэньне Трэцяй Тэхнічнай Канфэрэнцыі ў Вене ўжо выкарысталі прадстаўнікі дыктатарскага рэжыму й прадставілі прыезд тэхнічнай місіі АБСЭ як сапраўдных наглядальнікаў, што нібыта аўтаматычна пацягне за сабою прызнаньне выбараў легітымнымі. І ўжо зусім незразумела, якім чынам прысутнасьць Парляманцкай Тройкі ды тэхнічнай місіі на выбарах будзе садзейнічаць разьвіцьцю і ўмацаваньню дэмакратыі ў Беларусі, калі кіраўнік дыктатарскага рэжыму не аднойчы заяўляў, што яму ўсё роўна, якія высновы зробяць дадзеныя прадстаўнікі. І гэта ня проста заявы. На практыцы ён працягвае рабіць сваю справу - вычышчаць урад Беларусі ад беларусаў, далей змыкацца з прадстаўнікамі шавіністычных колаў Расеі й кіраўнікамі камуністычнай экстрэмісцкай плыні, якія ставяць сваёй задачай інкарпарацыю Беларусі ў склад Расейскай Фэдэрацыі.

У цяперашняй сытуацыі застаецца толькі адна надзея - розум усё-ж павінен узяць верх. І, як і прадугледжана пунктам 10 "Заключэньня й Рэкамендацыяў Трэцяй Тэхнічнай Канфэрэнцыі АБСэ ў Вене", погляды эўрапэйскіх структураў на запланаваны выбарчы фарс дыктатарскага рэжыму ў Беларусі могуць быць перагледжаныя ў адпаведнасьці з рэальнай сытуацыяй у Беларусі. Пры гэтым трэба браць пад увагу, што выбары ў гэтак званую "Палату" векануць спробай сілаў перад будучымі прэзыдэнцкімі выбарамі й надзвычай важна, каб ужо зараз перамогу атрымала не хлусьня й цемрашальства, а здаровы сэнс.

*Старшыня Вярхоўнага Савету*
**Сямён Шарэцкі**

# ПОМНІМ І ЧАКАЕМ



Мінуў год, як у невядомым накірунку зьнік Віктар Ганчар - дэпутат Вярхоўнага Савете Рэспублікі Беларусь, намесьнік Старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі на выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, актыўны дзеяч беларускай апазыцыі. Мінуў год, але ні родныя, ні сябры, ні калегі нічога ня ведаюць пра далейшы лёс Віктара Ганчара. Праваахоўныя ворганы хаваюцца ад грамадзкасьці за агульным сказам: "Ідзе сьледзтва". Сьледзтва праводзяць у справе зьніклага разам зь Віктарам Ганчаром прадпрымальніка Анатоля Красоўскага, у справе былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі, у справе журналіста, апэратара ГРТ Зьміцера Завадзкага. Да таго ж, Зьміцер Завадзкі зьнік пасярод белага дня і ў людным месцы. Дзе гэтыя людзі? Маладыя, здаровыя, поўныя фізычных і творчых сілаў мужчыны? Хто дасьць адказ? Каму спатрэбілася, каб яны зьніклі, каб іх не было сярод нас?

У свой час Адольф Гітлер праводзіў праграму зьнішчэньня ўсіх калекаў, нездаровых ды непаўнавартасных грамадзянаў сваёй краіны. Прычыну ўвядзеньня гэтай жудаснай, бесчалавечнай праграмы ён тлумачыў сваім прыхільнікам тым, што змагаецца за чысьціню нацыі. Маўляў, нямецкая нацыя павінная быць моцнай і здаровай. Толькі тады яна будзе непераможнай. У Беларусі зараз бяссьледна зьнікаюць маладыя, прыгожыя, разумныя - гонар нацыі. Чаму? Хто прымусіў працаваць жудасны канвэер выкраданьня людзей?

Анатоля Красоўскага я ня ведала зусім. Магу толькі шчыра паспачуваць ягоным родным. Зьміцера Завадзкага часта чула й бачыла па тэлебачаньні. Зь Юрыем Захаранкам неяк размаўляла. А вось Віктара Ганчара я ня толькі ведала, але мне нават давялося з ім разам працаваць у час травеньскай выбарчай кампаніі. Я была сябрам Цэнтральнай выбарчай камісіі выбараў прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, якую ўзначальваў Віктар Ганчар. Можна зараз абвінавачваць і Віктара Ганчара, і Цэнтральную выбарчую камісію ў тых памылках і праліках, якія адбыліся падчас гэтай надзвычай напружанай і нэрвовай кампаніі. Безумоўна, памылак мы нарабілі нямала. Але гэта задача палітолягаў - даваць аналіз выбараў. Я -ж проста ўзгадваю тыя часы, калі ўсе мы кожны дзень, кожную хвіліну ахвяравалі сваім здароўем, сваімі нэрвамі дзеля таго, каб нашая краіна зноў стала на шлях дэмакратыі. На жаль, у нас не атрымалася. Але я зараз магу ўспомніць Віктара Ганчара толькі з удзячнасьцю. Працаваць зь ім было лёгка. Як кіраўнік, гэта быў сапраўды вельмі прыстойны чалавек. Апошнім часам я часта вяртаюся ў думках да таго знакамітага арышту Цэнтральнай выбарчай камісіі, калі нас арыштавалі проста ў кавярні. Аб гэтым арышце ведае практычна ўвесь сьвет. Я магу зараз з упэўненасьцю сказаць, што мы, сябры камісіі, хоць і былі арыштаваныя няведама за што, хоць некаторыя з нас нават адседзелі па некалькі суткаў у турме, я ведаю - мы тады перамаглі. Перамаглі мы тады, у тым ліку й дзякуючы вытрымцы ды інтэлігентнасьці Віктара Ганчара. Сябрамі ЦВК былі й тры жанчыны. Памятаю, як мы ўсе сядзелі ў цесным пакойчыку Ленінскага ГРАУС г. Менску. У дзьвярах - АМАПаўцы з аўтаматамі на шыі. Суправаджалі нас нават у прыбіральню. Нэрвовае напружаньне адчуваецца амаль матар'яльна. Віктар Ганчар ні на адно імгненьне не выпускаў з вачэй нас, жанчынаў. Магчыма таму ніводзін з тых хлопцаў у камуфляжы не асьмеліўся пакрыўдзіць нас ні словам, ні дзеяньнем.

Ня ведаю, дзе зараз знаходзіцца Віктар Ганчар, вельмі спадзяюся, што ён жывы, як жывыя й здаровыя астатнія: Анатоль Красоўскі, Юры Захаранка й Зьміцер Завадзкі. Але я ведаю, што ўсе сьвядомыя беларусы чакаюць іхняга вяртаньня. І мы верым - гэты дзень настане.

**Лілія Сазанавец**

# Споведзь вязьня «Докшыцкай гасьцёўні»

*Калі чалавеку патрапіць пабываць у палоне, у заложніках, у турме, наогул, у мейсцах, дзе яго трымалі ў няволі, — ён у думках часта вяртаецца да таго самага. Мы ўжо пісалі пра сумныя прыгоды шчырага беларуса-віленчука Юрыя Гіля, нашага сталага аўтара, на ягонай «малой радзіме» ў Докшыцкім раёне, калі мяйсцовая калгасная мафія разграміла гісторыка-этнаграфічны музэй «Засьцянковая хатка», створаны ім у бацькоўскай хаце, а самога зьбіла на горкі яблык ды засадзіла на 7 сутак у Докшыцкі ізалятар пры Раённым аддзяленьні ўнутраных справаў — РАУС. Гэтым разам сп. Гіль прынёс у рэдакцыю больш падрабязнае й дэталёвае апісаньне свайго прабываньня там.*

«Докшыцкая гасьцёўня» — так называюць гэты засьценак самі докшыцкія міліцыянты. (Дарэчы РАУС, пракуратура й суд у Докшыцах знаходзяцца на адным панадворку па вул. Гайдара). Направа ад дыжурнага міліцыянта — падвоеныя дзьверы, што запіраюцца на 2 замкі: вонкавы замыкае сам дыжурны, а ўнутраны — надзіральшчык, каторы прахаджваецца ўздоўж турэмных камэраў і праз «вочкі» назірае, што там робіцца. Пасярод калідору —тэлефон, празь які пры нагодзе можна зьвязацца з дыжурным ці зь якім іншым міліцэйскім чынам. Камэраў усяго 5. Першая —»прыёмная», часовая. Там нараў няма — толькі лаўкі. Дзьве наступныя (N2 і N3) маюць нары, якія займаюць прыблізна 2/3 плошчы камэры. Нары невысокія, на вышыні калена, на іх можна пакласьці 6 чалавек. Падлога таксама драўляная, з дошак. Ёсьць забітае бляхаю вакно зь дзюркамі для вентыляцыі. (Я налічыў 20 дзюрак). На акне — зялезныя краты. Муры каменныя, дзьверы зялезныя... Вось у такім каменна-зялезным мяшку (камэра N2) я сядзеў ад самага пачатку з шасьцю іншымі сукамэрнікамі. Потым мы засталіся ўдвох, бо пяцёх докшыцкіх хлопцаў перавялі ў больш цёплую камэру N3, дзе ў блясе на вакне не было аддулінаў і не гуляў скразьняк. Затым і майго земляка Рамана Войціка перавялі ў тую камэру, і я застаўся адзін. Паколькі ў мяне не было курткі (не далі адзець пры арышце), было вельмі холадна, асабліва пад раніцу. Каб сагрэцца, я займаўся фізкультурнымі практыкаваньнямі. З

Працяг на старонцы 6

## Споведзь вязьня «Докшыцкай гасьцёўні»

Працяг са старонкі 5

камэры можна было пачуць толькі брэх міліцэйскіх сабакаў, якія месьцяцца акурат за мурам. Іх, дарэчы, кормяць куды лепш, чым зьняволеных.

Наступныя камэры (N4 і N5) пуставалі. Тут былі нават «цюфякі». Камэры гэтыя прызначаліся «ўгалоўнікам» («крымінальнікам»). Адгэтуль іх вывозяць ужо ў Віцебскую турму. Калідор, мінаючы камэры, паварочвае направа, і там абапал яго месьцяцца складзік, умывальнік (без вады), уборная й «сталоўка». А трошкі далей невялічкі габінэт бяз вокан, дзе праводзяцца допыты. Ні крыкаў, ні стогнаў, калі дапытваюць, стуль не чуваць. У гэтым пакойчыку са мной гутарыў пракурор Байданаў.

З посуду ў «сталоўцы» ёсьць чайнік, у якім з гарадзкой сталоўцы прыносяць крыху падсалоджаны чай. Разьліваюць у зялезныя кружкі, а баланду — у зялезныя міскі. Такі пагнуты й чорны посуд ня знойдзеш і на сьметніку. «Казённыя харчы» гэткія: раніцай пайка хлеба таўшчынёй з два пальцы й кружка падсалоджанага вару з лёгкім чайным пахам. Тое самае ўвечары. На абед да гэтага «сэрвісу» дадаюць міску баланды з гнілой капусты.

Кожнай раніцы камэру аглядае опэрупаўнаважаны за рэжымам. Пытаецца, якія ёсьць прэтэнзіі, але гэта толькі дзеля хвормы, у сапраўднасьці нічога не прадпрыймаецца.

У камэрах у асноўным сядзяць докшыцкія. Асабліва тыя, хто буяніць, напіўшыся. З перафэрыі прывозяць пераважна людзей зьбітых самімі ўчастковымі, каторых потым асуджаюць на 7-8 сутак. Асуджаных часам выводзяць на «принудительные» работы. Асуджаных гэта задавальняе: можна падабраць ды скурыць акурак, нешта зь ежы перахапіць, а галоўнае — «на волі»! Бывае, што «сутачнікаў» позна вечарам паднімаюць «па трывозе» й вязуць на тэрміновыя работы, часам нават у суседні раённы цэнтар Глыбокае (на аварыю, на працу ў трупярню (морг) ды пад.). Ня грэбуюць працай «сутачнікаў» і вышэйшыя міліцэйскія й судовыя чыны: яны працуюць на іхніх гаспадарках. Сярод «сутачнікаў» ёсьць і «невывадныя», да якіх быў залічаны і я.

Летнімі днямі ў камэрах спёкна, як у лазьні. Зьняволеныя тады імкнуцца да дзьвярэй — да «вочка», скуль паступае крыху паветра. Усе яны тады нагадваюць сабакаў, што высалупілі языкі, каб каўтнуць глыток сьвежага паветра. Але й гэты глыток залежыць ад стану настрою надзіральшчыка. Калі ён не ў гуморы — «вочка» бывае зачыненае. Ёсьць сярод надзіральшчыкаў і такія, што спачуваюць сваім «падапечным». Гэтак са мной вельмі добра абыходзіўся сяржант Уладзімір Стадольнік родам з Пасекаў, што непадалёк ад майго роднага Вашунава. Але быў і іншы, яго называлі «бамбіза» — адпеты злодзей.

Наогул сярод міліцыянтаў сустракаюцца нядрэнныя людзі, але ў бальшыні сваёй гэта — падонкі, у якіх іх штодня пераўтварае савецка-беларуская міліцэйская сыстэма. Размовы ў іх і дзеяньні адныя тыя самыя, каб дзе што «дастаць» у старшыняў калгасаў (мяшок бульбы, збожжа й пад.), пабраканьернічаць у лесе ці на возеры, разжыцца дармовым самагонам. Усе яны залежаць ад «чырвоных фэадалаў» — калгасных кіраўнікоў. Старшыня калгасу Гірын, які арганізаваў напад на музэй і на мяне, а потым здаў участковаму, гаварыў: «Органы у меня все схвачены крепко, так что бесполезны все твои действия. Все равно они будут на моей стороне!»

Асабліва «свирепствуют» супрацоўнікі РАУС падчас, калі докшыцкія жыхары атрымоўваюць зарплаты. Тады міліцыянты імкнуцца нахапаць як мага больш п'яных, арыштаваць іх ды абабраць. Гэта іхні «даход». Калі ты патрапіш у РАУС, дык вернесься стуль без граша.

«Гасьцёўні», падобныя да Докшыцкай, існуюць ва ўсіх райцэнтрах Беларусі. Яны ўтвараюць своеасаблівы ГУЛАГ «Беларусь», каторы, як кажуць, паводле абрэвіятуры расшыфроўваецца, як «Государственное Управление Лукашенко Александра Григорьевича»

**Юры Гіль**

## Інфармацыя — уласнасьць грамадзтва

У нас, у Літве, вельмі хутка йдуць такія нэгатыўныя зьмены ў галіне свабоды слова, пра якія цяжка не сказаць. З аднаго боку, мы за 10 гадоў нашай маладой дэмакратыі шмат чаго дасягнулі ў гэтай галіне, зь іншага боку, апошнім часам пачаліся тут нейкія дзіўныя мэтамарфозы.

Уся заканадаўчая база СМІ у Літве ўкладзеная ў нашую Канстытуцыю. Канстытуцыю-ж мы прынялі ў 1992 г. і там запісана, што кожны чалавек без усялякіх абмяжаваньняў і выключэньняў мае права атрымоўваць і распаўсюджваць інфармацыю й свае ідэі, што цэнзура забароненая, а ў 44-ым артыкуле, што асабліва важна, запісана, што ніхто, ні палітычная партыя, ні грамадзкая арганізацыя, ні банк, ні ніякая прыватная асоба, ня маюць права манапалізаваць СМІ.

Першы закон аб СМІ, які дзейнічаў з 1989 г. і які, дарэчы, ствараўся не без дапамогі нашага Саюзу журналістаў, – якраз і ўвабраў у сябе вышэйпералічаныя палажэньні Канстытуцыі. Менавіта гэты закон і гарантаваў усім без выключэньня жыхарам Літвы свабоду слова й свабоду друку. У ім аднак былі захаваныя некаторыя рэлікты савецкага часу, напрыклад, кантроль над друкам, зь якім нельга было згаджацца. Першы наш закон быў аднак вельмі прагрэсыўны й прайснаваў у такім выглядзе да 1996 г.

У 1996 г. літоўская грамадзкасьць з удзелам журналістаў стварыла адумысловую групу, якая дапрацавала закон аб друку, значна ўдасканаліўшы яго, і закон гэты, дзякуй Богу, існуе й да сёньня. У гэтым законе першы раз у гісторыі журналістыкі Літвы журналісты атрымалі магчымасьць не раскрываць сваіх крыніцаў інфармацыі, нават калі гэтага патрабуе суд (!). Упершыню была створаная сыстэма самарэгуляцыі, у якую ўвайшлі Камісія этыкі, інспэктар журналістыкі, Камісія радыё й тэлебачаньня для камерцыйнага радыё й тэлебачаньня, а таксама Савет нацыянальнага радыё й тэлебачаньня. (Нацыянальны літоўскі канал мае свой уласны закон).

У розных дзяржавах самарэгуляцыя СМІ адбываецца па-рознаму. Ёсьць аднак чатыры пытаньні, на якія павінныя зварочваць увагу ва ўсіх краінах, гэта: забараняецца ў СМІ агітацыя за неканстытуцыйную, гвалтоўную зьмену ўлады; нельга распаўсюджваць фанатычна-рэлігійныя, расавыя, нацысцкія погляды; нельга прапагандаваць вайну; забараняецца выраб і распаўсюджаньне парнаграфіі.

Аднак, нягледзячы на ўсе нашыя спробы зрабіць так, каб сыстэма самарэгуляцыі дзейнічала менавіта так, як патрабуе закон, –мы сутыкнуліся са шматлікімі перашкодамі, якія мы ў свойчас нават і не маглі прадбачыць. Як высьветлілася, у законе былі пакінутыя разнастайныя функцыі й абавязкі, якія ўскладаліся на розныя дзяржаўныя ўстановы. Напрыклад, у Камісію экспэртаў, якая працуе пры Камісіі этыкі, сваіх прадстаўнікоў дэлегуюць міністэрствы культуры, адукацыі, аховы здароўя, юстыцыі. Сама-ж сыстэма самарэгуляцыі фінансуецца з Фонду дапамогі культурна-асьветніцкай дзейнасьці й СМІ, які, у свой чарод, фінансуецца зь дзяржаўнага бюджэту. І вось пакуль дзяржава давала грошы, Камісія экспэртаў працавала. Калі-ж дзяржава зьбяднела й перапыніла ейнае фінансаваньне – экспэрты разбрыліся. Жыцьцё паказала, што дзяржаўныя чыноўнікі на грамадзкіх пачатках працаваць не жадаюць. Гэта быў першы ўдар па нашай сыстэме самарэгуляцыі, якая ёсьць самае каштоўнае ў дэмакратычных краінах, таму што толькі сыстэма самарэгуляцыі дае сур'ёзныя гарантыі, што ніякія палітыкі, партыі ці дзяржаўныя структуры ня ўмешваюцца ў справы журналістыкі.

Цяперашняя правячая партыя пасьля першых двух месяцаў свайго кіраваньня ажно 11 разоў (!) у сьпешным парадку ўносілі папраўкі ў Закон аб нацыянальным радыё й тэлебачаньні з той толькі прычыны, што ёй не падабаўся чалавек, якога абралі конкурсным шляхам Генэральным дырэктарам Савету нацыянальнага радыё й тэлебачаньня. Барацьба гэтая доўжылася да ўчарашняга дня. Учора сабраўся новы Савет і абраў патрэбнага «правым» спадара Жукаса, якім яны могуць маніпуляваць. Аднак-жа наперадзе блізкія выбары ў Сойм... І я бачу цёмныя хмары, якія зьбяруцца ў кастрычніку. Я перакананы, што тыя, хто прыйдзе да ўлады, у свой чарод, будуць займацца не балючымі для Літвы праблемамі, а новымі «папраўкамі» да Закону аб нацыянальным радыё й тэлебачаньні. Калі бальшавікі бралі ўладу, дык яны насамперш бралі тэлеграф, тэлефон і масты. Цяпер бяруць Нацыянальны канал радыё й тэлебачаньня, каторы адзін застаўся ў Літве дзяржаўным, бо фінансуецца зь дзяржаўнай скарбніцы. І гэта вельмі шкода... Нам яшчэ не адзін год трэба вучыцца дэмакратыі, а радыё й тэлебачаньне, безумоўна, робяць у гэтай важнай справе значна большы ўплыў на грамадзтва, чым друк.

Мы забыліся на галоўнае, на тое, што інфармацыя ня ёсьць уласнасьць выдаўца, палітыка ці журналіста. Яна – уласнасьць грамадзтва, і задача ўсіх названых палягае толькі на тым, каб як мага аб'ектыўней падаваць яе спажыўцу – грамадзтву.

Ня толькі літоўская, але й сусьветная практыка паказваюць аднак, што гэта толькі прыгожыя зычэньні. І тут ёсьць поле для бясконцага дасканаленьня. Імпэрыя Мэрдака, імпэрыя Гусінскага, імпэрыя Беразоўскага, – яны разбураюць дэмакратычную сыстэму самарэгуляцыі СМІ. І нашыя сёньняшнія найбуйнейшыя газэты, такія, як «Lietuvos ritas» wi «Respublika», таксама пайшлі сёньня па шляху сэнсацыяў за кожную цану. І калі іх няма – яны тыя сэнсацыі выдумляюць, маўляў, гэта цікава грамадзтву. Не. Трэба арыентавацца на сур'юзную журналістыку, каторая патрабуе вялікіх матар'яльных затратаў, сілаў і часу. (Журналісты адной канадзкай газэта, напрыклад, каб данесьці грамадзтву, як бяздарна бавяць час канадзкія судзьдзі, працавалі, нічога больш ня робячы, шэсьць месяцаў). Калі без маёй згоды пішуць пра стан майго здароўя – гэта крымінальнае злачынства. А ў нас друкуюць прозьвішчы й фатаздымкі падлеткаў (!), якія зьдзейсьнілі невялічкае парушэньне закону!

Сёньня правячая партыя перад сваім зыходам робіць небывалы ўціск на свабоду слова ў Літве, а апазыцыйныя партыі ня кажуць гучна, што гэта кепска. Падобна да таго, што й «правыя», і «левыя» хочаць сёньня зьнішчыць з такой цяжкасьцю створаную сыстэму самарэгуляцыі.

*Старшыня Саюзу журналістаў Літвы*
**Рымгаўдас Эйлунавічус**

## Такія месты проста так не пакідаюць...

Нашаму карэспандэнту ўдалося тыдзень пабыць у Вільні – старажытнай беларускай сталіцы, а зараз – сталіцы незалежнай Літвы. Наведаньне абвеянага легендамі й мітамі, плёткамі й паданьнямі казачнага места пакінула (інакш быць не магло) незабыўныя й грандыёзныя ўражаньні, прымусіла шмат пра што падумаць, шмат што параўнаць, прааналізаваць.

На запрашэньне менскага цэнтру «Супольнасьць» і Віленскага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі» каля дваццаці журналістаў з рэгіянальных незалежных выданьняў узялі ўдзел у літоўска-беларускім сэмінары «10 гадоў дэмакратычных рэформаў».

Прадстаўнікі «чацвёртай улады» зь Берасцейскай, Гарадзенскай, Менскай, Віцебскай і Магілёўскай вобласьцяў атрымалі цудоўную магчымасьць сустрэцца з палітычнымі й грамадзкімі дзеячамі суседняй дзяржавы, з журналістамі й выдаўцамі, з простымі людзьмі. Дзякуючы шматлікім і прадстаўнічым сустрэчам, асабістым назіраньням і добра падрыхтаваным экскурсам на тэлебачаньне, у друкарні, у рэдакцыю газэтаў і шмат яшчэ куды, зьявілася добрая магчымасць рэальна ацаніць жыцьцё Літоўскай Рэспублікі. А таксама вырашыць для сябе вялікую колькасць пытаньняў і зафарбаваць вялікую колькасць белых плямаў на мапе ведаў, што тычацца блізкай, і ў той самы час далёкай суседкі.

Блізкай таму, што мы неразрыўна былі зьвязаныя агульнай гісторыяй шмат вякоў. Далёкай таму, што суровая рэчаіснасць павяла нас у абсалютна супрацьлеглых напрамках і сёньня лягчэй даведацца пра жыцьцё якой-небудзь Атлянты ці Брусэля, чым пра будні Вільні.

Як ужо казалася вышэй, уражаньні, якія засталіся пасьля сустрэчы з «паннай Вільняй», можна назваць надзвычай значнымі. Старажытныя вузкія вулачкі, дзясяткі галавакружных касьцёлаў і цэркваў, чырвоная чарапічныя дахоўка камяніцаў, прывабны эўрапейскі выгляд, фантастычныя крамы, чысьціня й ветлівыя, прыгожа апранутыя гараджане... Гэты зьнешні лоск падштурхоўвае да адной толькі думкі – няма лепшага для жыцьця места на сьвеце, чым Вільня. Але, калі паспрабаваць разабрацца больш дэталёва, зазірнуць, гэтак мовіць, за фіранку, дык робіцца зразумелым: ня ўсё так адназначна.

Існуюць пэўныя цяжкасьці і з прыватызацыяй, і зь вяртаньнем земляў былым гаспадарам, і з аплатай кватэры (плата вельмі вялікая), і з прыцягненьнем заходняга капіталу, і з існаваньнем вясковых жыхароў, і зь безпрацоўем... Словам, праблемаў усіх не пералічыць.

Аднак, адзінае, што можна сказаць, нават пасьля асэнсаваньня усёй праблематычнасьці шляха развіцьця, абранага Літвой: «Правильной дорогой идёте, товарищи!» Судзіце самі: сярэдні заробак па краіне – 280 амэрыканскіх даляраў, мінімальны – 108. Няхай трэба шмат плаціць за кватэру, няхай дорага каштуюць тэлефонныя размовы й квіткі ў тралейбусе, але ёсьць пэрспэктыва. Ёсьць магчымасьць, калі ты не гультай і не абібок, зарабляць і 500, і 1000, і значна больш. І патраціць гэтыя грошы ёсьць дзе. Хочаш– у сваёй краіне, а ня хочаш–едзь у Нямеччыну, ці Галяндыю, бо ня трэба ніякіх візаў. Ёьсць цудоўная магчымасць самарэалізавацца на тым ці іншым попрышчы, нават калі ты «не хапаеш зорак зь неба».

Што тычыцца свабоды слова, выбараў ці іншых дэмакратычных інстытутаў у Літве, дык тут практычна няма ніякіх праблемаў. Дэмакратыя нагадвае стары, добра адладжаны гадзіньнікавы мэханізм – збояў практычна няма дый быць ня можа, таму што на варце стаяць мясцовае самакіраваньне ды Сойм, якія рэальна абраныя народам і прадстаўляюць ягоныя інтарэсы. Дарэчы, гэтай восеньню ў літоўцаў падчас выбараў у Сойм будзе магчымаьць выказацца «за» ці «супраць» той палітыкі, якую праводзяць цяперашнія ўлады, сфармаваныя пераважна з «правых» –кансэрватараў. І слова народу будзе вызначаць, ці сапраўды правільным шляхам ідзе Літоўская Рэспубліка.

Так здарылася, што мы мала ведаем адзін пра аднаго. Так здарылася... Але, калі ёсьць на сьвеце нейкая вышэйшая справядлівасьць, дык рана ці позна мы зноў працягнем рукі адзін аднаму. Вось толькі мы – беларусы – дарэмна згубілі аж дзесяць гадоў, у той час, як нашыя суседзі скарысталі іх з плёнам для сябе.

**Андрэй Кузьмін**

## Цьві Колітц

# Зварот да Бога Ёзеля Раковера



*У сьнежні 1999-га споўнілася 80 гадоў з дня нараджэньня жыдоўскага журналіста Цьві Колітца. Цьві Колітц ведамы як аўтар так званага «несапраўднага» роспаведа з Варшаўскага гета, які ён назваў «Зварот да Бога Ёзеля Раковера». Гэты твор выклікаў шматлікія спрэчкі, і да сёньня цалкам ня высьветлена, ці сапраўды гэты твор напісаны ў часе гібелі Варшаўскага гета, а пасьля знойдзены пасярод руінаў гораду, ці яго напісаў сам Цьві Колітц. Гэтыя спрэчкі каштавалі жыдоўскаму журналісту шмат нэрвовай напругі, яго нават абвінавачвалі ў тым, што ён ёсьць проста падманшчык.*

*Цьві Колітц нарадзіўся 14 сьнежня 1919 г. у Літве ў строгай рэлігійнай жыдоўскай сям'і. У 11 гадоў ён страціў бацьку, у 1940 годзе эміграваў разам з маці й сям'ю братамі й сёстрамі ў Палестыну. Там далучыўся да сіяністкай падпольнай арганізацыі Іргун, якая змагалася за ўсталяваньне ў Палестыне жыдоўскай дзяржавы. У 26-гадовым веку Цьві Колітц быў засланы ў якасьці агента Іргун у Буэнас-Айрэс. Там, у гатэльным нумары, ён і напісаў свой самы значны твор — «Зварот да Бога Ёзеля Раковера». Твор быў напісаны на ідышы й яго меркавалася надрукаваць у вадной з аргентынскіх газэтаў. Невядома, ці быў гэты твор надрукаваны ў Аргентыне, але калі нават і быў, дык вялікага розгаласу ён тады ня выклікаў. У 1953 г. яго надрукавалі ў літаратурным часопісе ў Тэль-Авіве, і ў гэтым часопісе ён выдаваўся за сапраўдны дакумант Халакосты. Колітца пачалі абвінавачваць у падмане. Ніхто не хацеў верыць, што ў «Звароце» адлюстраваная сапраўдная гісторыя... Цяпер Цьві Колітц жыве ў Нью-Ёрку.*

*Гэты пераклад зроблены мною зь ягонай нямецкамоўнай рэдакцыі, зьмешчанай у газэце «Die Welt» у сьнежні 1999 г.*

**Лілея Сазанавец**



...сэрдце не прих...
...Тофетом и долиною сыновей Еномовых...
и в Тофете будут хоронить по недостатку места...
трупы народа сего пищею птицам небесным и зверям земным,
и некому будет отгонять их. 34 И прекращу в городах Иудеи
и на улицах Иерусалима голос торжества и голос веселия,
голос жениха и голос невесты; потому что земля эта будет
пустынею.
8 В то время, говорит Господь, выбросят кости царей Иуды
и кости князей его, и кости священников, и кости пророков,
и кости жителей Иерусалима из гробов их; 2 и раскидают их
пред солнцем и луною и пред всем воинством небесным,
которых они любили и которым служили и в след которых
ходили, которых искали и которым поклонялись; не уберут их
и не похоронят; они будут навозом на земле. 3 И будут смерть
...жизни все остальные, которые останутся от
...племени во всех местах, куда Я изгоню их, говорит...

**У руінах Варшаўскага гета паміж грудамі абвугленых камянёў і чалавечых трупаў быў знойдзены дадзены тэстамэнт, што быў напісаны ў апошнія гадзіны Варшаўскага гета жыдом, якога звалі Ёзель Раковер. Тэстамэнт быў схаваны ў маленечкай бутэльцы паміж цэглай у разбураным доме.**

*Цьві Колітц*

*Варшава, 28 красавіка 1943 г.*

Я, Ёзель, сын Давіда Раковера зь Цярнопалю, пасьлядоўнік Рабіна Гера й нашчадак Справядлівага, Вучонага й Сьвятога зь сям'і Раковераў і Майслаў, пішу гэтыя радкі ў той самы час, калі дамы ў Варшаўскім гета стаяць у полыме, і дом, у якім я знаходжуся, ёсьць апошні, які яшчэ не гарыць. Ужо напрацягу некалькіх гадзінаў вакол мяне грамыхае артылерыйскі агонь, растрэскваюцца й ламаюцца пашкоджаныя градам снарадаў муры.

Так ня будзе доўга працягвацца, і гэты дом, як амаль усе астатнія дамы гета, ператворыцца ў магілу для сваіх жыхароў і абаронцаў. Цераз маленькія, напалову замураваныя акенцы ў маім пакоі, празь якія дзень і ноч даляцае страляніна ворага, у міргаючых барвяных промнях я бачу кароткі заход сонца й надыход зьмярканьня. Магчыма, сонца зусім ня ведае, як мала я шкадую, што больш ніколі ня ўбачу яго.

Здарылася нешта жудаснае: усе нашыя паняцьці й пачуцьці зьмяніліся. Хвілю сьмерці — хуткую й імгненную — сустрэнем мы як пазбаўленьне, як вызваленьне й разрыў нашых путаў. Мне баліць душа, калі я чую, што злачынцы, якія сёньня апанавалі Эўропу, падобныя да зьвяроў. Зьвяры ў лесе, наадварот, паказваюць мне, як трэба любіць і чым даражыць. Гэта няпраўда, што Гітлер у нечым нагадвае зьвера. Ён ёсьць — я глыбока ў гэтым упэўнены — тыповае дзіцё сучаснага чалавецтва. Чалавецтва адлюстравалася ў ім цалкам, і Гітлер часта паказвае празь сябе ягоныя таемныя першасныя жаданьні.

У лесе, дзе я дагэтуль хаваўся, сустрэў я неяк ноччу сабаку, хворага, паміраючага з голаду, з абвіслым хвастом. Абодва мы адразу зразумелі падабенства нашага становішча, бо сабака выглядаў ня лепш, чым я. Ён адразу прыхіліўся да мяне, схаваў галаў у мяне на каленях, лізаў мае рукі. Я ня ведаю, ці плакаў я калі-небудзь раней так, як той начы. Я радаваўся гэтаму сабаку, як дзіцё. Я зайздросьціў яму, гэтаму сабаку. Я шкадаваў, што я ёсьць не сабака, а чалавек. Да такога стану я прыйшоў. Жыцьцё — Няшчасьце, Сьмерць — Збаўленьне, Чалавек — Пакуты. Зьвер — Ідэал, Дзень — Шэрасьць, Ноч — Заклік.

Мільёны людзей у цэлым сьвеце ўлюбёныя ў Дзень і ня маюць нават самага малога ўяўленьня, колькі Цемры й Няшчасьця ўжо падрыхтавала для іх Сонца. Злачынцы ўжо ператварылі яго ў прыладу ў сваіх руках. Сьвятло не хавае сьлядоў тых, хто ўцякае й хочыць выратавацца. Калі я з маёй жонкай і маімі дзецьмі — колькасьцю ў шэсьць асобаў — схаваліся ў лесе, Ноч і толькі Ноч давала нам паратунак. Дзень выкрываў нас перад нашымі перасьледнікамі. Няўжо магу забыць я, як кожны дзень град нямецкага агню абрынаўся на тысячы бежанцаў на вуліцах Гародні й Варшавы! Разам з Сонцам падымаліся ў неба іхныя самалёты, якія пасьля, напрацягу многіх дзён, забівалі нас. Ад гэтае крывавае расправы загінула мая жонка з нашым сямімесячным немаўляткам на руках. Тым самым днём загінулі й два мае іншыя сыны: Давід і Яхуда — так іх звалі. Адначу было чатыры, другому — шэсьць гадоў. Мае апошнія трое дзяцей загінулі зусім нядаўна ў Варшаўскім гета, і мне няма ўжо больш пра каго турбавацца: яны знаходзяцца ў руках Гаспадара Неба й Зямлі...

Цяпер прыйшла мая гадзіна, і як Хіоб, магу я сабе сказаць: «Голы я вяртаюся ў Зямлю, голы, як таго дня, калі я нарадзіўся!» Мне сорак тры гады, і калі я цяпер азіраюся на праміналыя гады, я магу з упэўненасьцю канстатаваць — наколькі чалавек можа, наогул, быць у гэтым упэўнены — я жыў сумленна. Маё сэрца было поўнае любові да Бога. Я быў упэўнены ў посьпеху, хоць ён не заўсёды да мяне прыходзіў. Мая маёмасьць была дастатковай. І яшчэ я меў магчымасьць стаць немаёмасным. Згодна парады майго Рабіна зважыў я на тое, што, каб некага спакусіць, трэба прапанаваць яму заваладаць чужой маёмасьцю. Мой дом быў адчынены кожнаму, хто меў патрэбу, і я быў шчасьлівы, таму што мог паказаць людзям мою павагу да іх і маю адрачынасьць. Богу служыў я з адданасьцю, і мая адзіная просьба да яго палягала на тым, каб ён таксама служыў мне «з усім сэрцам, з усёй душой і з усёй сілаю».

Я не магу паведаць, што праз усё перажытае мною мае адносіны да Бога не зьмяніліся. З абсалютнай упэўненасьцю я магу сказаць толькі тое, што мая Вера ў Яго ні на каліўца не зьмянілася. Раней, калі мне было добра, маё стаўленьне да Яго як да Таго, хто падарыў мне Сябе ўсяго цалкам, без астачы, і з Кім я дзеля гэтага ўвесь час заставаўся. Цяпер я стаўлюся да Яго, як да Таго, Хто павінен мне нешта аддаць: шмат павінен. І таму я адчуваю, што Ён таксама вінаваты перад мною, і я маю права Яму пра гэта напомніць. Але я кажу гэта ня як Хіоб, што Бог павінен накласьці пальцы свае на мой грэх — я яго заслугоўваю і ведаю гэта. Гэтаксама, як Вялікі й Найлепшы, я цьвёрда ўпэўнены, што няма зараз у сьвеце большага пытаньня, чым Пакараньне за Грахі. Цяпер надыйшоў асаблівы Час, і ён мае імя Гастораэс Покім — Час, калі Бог адварочвае Твар Свой. Бог схаваў Свой Твар ад сьвету, і таму людзі паказалі свае схаваныя дагэтуль дзікія інстынкты. Таму я думаю, што цяпер, калі, на жаль, над сьветам уладарыць улада злых інстынктаў, — першыя ахвяры гэтай улады павінныя паўстаць перад Сьвятым і Чыстым. Аднак гэта ня можа быць суцяшэньнем. Яшчэ калі лёс майго народу быў вызначаны не праз жыцьцёвыя рахункі, а праз рахункі зь Іншасьветам, не матэр'яльным і фізычным, а духоўным і сьвятым, — тады павіннае было адбыцца хоць невялічкае ўраўнаважаньне гэтай чалавечай трагедыі. Але гэта зусім не азначае, што праз сваю пабожнасьць мой народ павінен толькі казаць: «Так пастанавіў Госпад, а Ягоныя пастановы правільныя». Кажучы, што мы самі заслугоўваем тых ударах, якія мы прынялі, мы займаемся блюзьнерствам, апаганьваем Сьвятое Імя Шэма Хамефораша, апаганьваем імя Жыд, апаганьваем імя Бог. Гэта адно тое самае. Бог будзе помсьлівы, калі мы будзем помсьцісь самі сабе.

У такім стане я чакаю — натуральна — ня цуду й не прашу Яго, Майго Бога, каб ён зьлітаваўся нада мною. Ён паважаў мільёны іншых народаў і не павінен трымаць Свой Твар схаваным ад мяне. Я ня ёсьць выняткам з правіла. Я не чакаю нейкага асаблівага стаўленьня да сябе. Я не спакушаю Яго выратаваць мяне, і сам ня буду больш ратавацца. Я нават аблегчу агню ягоную справу —абалью бензінам сваё адзеньне. Тры бутэлькі зь бензінам я яшчэ маю пры сабе пасьля таго, як цэлы тузін зь іх я выліў на галовы маіх забойцаў.

Гэта быў вялікі момант у маім жыцьці, і як я дзіка сьмяяўся пры гэтым! Ніколі ня мог сабе ўявіць, што сьмерць людзей —няхай сабе й ворагаў! — будзе гэтак радаваць мяне. Неразумныя гуманісты могуць казаць, што яны хочаць выціснуць з душаў прагу помсты й расплаты, таму што ні помста, ні расплата, ні супраціў прыгнёту не даюць вялікага духоўнага задавальненьня. Да нядаўняга часу я не разумеў правільна адзін сказ у Талмудзе, дзе гаворыцца: «Помста сьвятая, калі яна будзе згадвацца паміж двума найменьнямі Бога, бо сказана «Бог Помсты ёсьць Госпад!»». Зараз я гэта разумею. Я адчуваю й ведаю, як радуецца сэрца, калі спамінаю, што наш Бог крычаў праз цэлае тысячагодзьдзе: «Ай Некомэ Адэной!» — «Бог Расплаты, о Госпад! Бог Помсты, узьлятаю да Цябе!»

І цяпер, у стане, калі жыцьцё й сьмерць бачацца з асаблівай яскравасьцю, калі чалавеку дадзеная рэдкая магчымасьць памерці, мне здаецца, што я ўбачыў дзіўную й характэрную розьніцу паміж нашым Богам і Богам, якому верыць народы Эўропы. Тымчасам як наш Бог ёсьць Бог Помсты й нашая Тора пагражае сьмерцю за самае малое злачынства (пра што адначасна гаворыцца ў Талмудзе, паводле якога Занхэдрын быў самым высокім Судом нашага народу — у той далёкі час толькі адзін сьмяротны прысуд быў выкананы Высокім Судом напрацягу сямідзесяці гадоў, і тады крычалі судзьдзі: «Ён — забойца!»), — дык Бога народаў Эўропы, наадварот, называюць Богам Любові, яго просяць любіць кожную істоту, створаную паводле Ягонага Падабенства, і зь Ягоным Іменем забіваюць нас без міласэрнасьці штодзённа вось ужо напрацягу амаль двух тысячагодзьдзяў.

Так, я казаў пра помсту. Сапраўдную помсту мы рэдка бачылі, аднак калі даводзілася яе перажываць, яна была такой прыемнай і такой салодкай, прыносіла такую глыбокую асалоду й такое велізарнае шчасьце, што тады пачыналася новае жыцьцё. Танк апынуўся на нашай вулачцы зусім нечакана й адразу быў заатакаваны з усіх ацалелых навокал будынкаў бутэлькамі зь бензінам. Аднак ніхто ў яго не патрапіў, і танк спакойна сунуўся наперад. Тады мы з маім сябрам перачакалі, пакуль танк праедзе перад самым нашым носам, а потым яшчэ раз закідалі яго бутэлькамі з нашых напалову замураваных вокнаў. Ахоплены полымем танк спыніўся, і шэсьць палаючых нацыстаў выскоквалі зь яго на дол. Ах, як гарэў танк, як палалі нацысты! Яны гарэлі гэтаксама, як жыды, толькі лямант іхні быў мацнейшы. Жыды так не лямантуюць. Яны прымаюць Сьмерць, як Збаўленьне. Варшаўскае гета паміраў у барацьбе, яно застаецца недаступным, яно змагаецца й палае — але бяз ляманту!

**Працяг у наступным нумары**

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Даведаўся, што ў Вільні выдаецца на беларускай мове газэта «Рунь» — вашая газэта. Я даўно марыў папрацаваць у замежным выданьні, каб несьці весткі сваім зямлякам, што засталіся жыць і працаваць па-за межамі Беларусі. Зь вялікім задавальненьнем буду дасылаць ім праз «Рунь» цікавыя навіны з Бацькаўшчыны, а таксама свае ўласныя літаратурныя творы: гумарыстычныя апавяданьні, казкі, фантастыку ды інш.*

Зыгмунт Дзякевіч

## Як сусед суседа розуму вучыў

Жылі ў вёсцы па-суседзтву Васіль ды Ігнат, але-ж надта завідны быў Ігнат да чужога Васілёвага багацьця. Што-б той не зрабіў, чаго-б не прынёс у хату, усё бачыў і знаў ужо Ігнат, а, значыць, і ўся вёска, і начальства, і міліцыя. Цярпеў Васіль суседа, як мог, але калі той зноўку выклікаў міліцыю, быццам ён, Васіль, брагу зарашчыняў, — ня выцярпеў і пастанавіў правучыць «пільнага назіральніка».

У самы ранак, не ўключаючы сьвятла, але гучна бразнуўшы клямкай, каб пачуў Ігнат, узяў два трохлітровыя слоікі з вадой, рыдлёўку й, крадучыся, выйшаў у сад ды закапаў слоікі пад грушкай-смалянкай. Чакаў нядоўга: толькі скурыў папяроску, а каля хаты візгаў ужо міліцэйскі УАЗ-ік, і ў хату пастукаліся трое міліцыянтаў:

— Адкрывай хату, гаспадар, міліцыя! — На парозе вырасьлі трое стражаў парадку, сяржант, старшына й капітан, зь вельмі пакамячанымі тварамі, ці-то са сну, ці-то з пахмельля. — Нам казалі, што Вы самагонам таргуеце?

— Якім самагонам, хлопцы! Цукар-жа надта дарагі. Дый ня п'ю я гарэлкі, — апраўдаваўся Васіль.

— Ну, ня хочаш па-добраму, будзем шукаць самі.

Кінуліся ўсе трое з хаты й напрасткі ў сад да грушы-смалянкі. Сьвежую зямліцу лёгка адгрэблі рукамі, і на іхняе вялікае задавальненьне перад вачыма паўсталі два слоікі.

— А гэта што? Зьбірайся, галубок, паедзем у аддзел, раз не хацеў прызнавацца сам.

Васіль краем вока бачыў, што заўсім за гэтым сачыў ягоны сусед Ігнат, бачыў, як ён задаволена паціраў рукі, як сьвяціўся ягоны твар. А міліцыянты, згараючы ад смагі й нецярпеньня, выцяглі зь зямлі слоікі. Першаму, на спробу, далі адпіць сяржанту.

— Ну, як? — адарваў яго ад слоіка старшына, і, не чакаючы адказу, пачаў нагбом піць зь яго. — Вада, блін!

— Ня можа быць, дайце мне! — не паверыў капітан і таксама зрабіў глыток. — Сапраўды, вада!

Ня верачы, адзін аднаму, а больш таму, што прападае магчымасьць дармовага апахмелу, яны зноў, па чарзе, сёрбнулі з другога слоіка.

— Дзе, гніда, самагон падзеў? — прасіпеў злосна старшына. Але гэта ўжо тычылася не толькі Васіля, а й стаючага за плотам Ігната. — Што гэта ты нам падсунуў?

Сусед Ігнат, бачачы, што справа абарочваецца да яго кепскім бокам, хуценька даўся дахаты. Было чуваць, як бразнула на ягоных дзьвярах клямка.

— Які там самагон, хлопцы, гэта-ж нехта над вамі злосна пажартаваў. Цешча ў мяне была вельмі набожная. Казала, калі памру, дык вы, дзеткі, памыйце вадой мне ногі ды закапайце пад грушкаю. Тады ёй на тым сьвеце лягчэй будзе хадзіцца. Вось я й выканаў ейны прадсьмертны запавет...

Пераглянуўшыся, міліцыянты з жудаснымі тварамі кінуліся ў глыб агароду апаражняць ваніты, якія падкаціў раптам да самага горла...

Сусед Ігнат ад той пары ў міліцыю не званіў, а праз нейкі час і зусім зьехаў з той вёскі.

## Перахітрыў

Кірмаш гудзеў разнагалосьсем. Яўхім прайшоўся паміж радамі, падзівіўся багацьцю тавару й іх шалёным цэнам і, падняўшы каўнер свайго лапленага-пералапленага кажуха, падаўся да натоўпу, што сабраўся ў сярэдзіне кірмашовай плошчы. Адтуль даносіліся лаянка, рэзкія галасы, рогат. Яўхім не пасьпеў падыйсьці да вясёлай гурмы, як зразумеў, у чым там быў сакрэт: ладна прыбраны цыган з залатымі зубамі й пярсьцёнкамі на пальцах спрабаваў збыць старому дзеду парваны хамут:

— Бяры, дзед! Далібог, успомніш пасьля мяне добрым словам. Хамут амаль што новы. Ну, можа, заменіш супоню, скуру й вайлак паправіш. Дый капыл з аднаго боку — будзе, як новы! Я-б не прадаваў, ды грошы патрэбныя, як паветра...

Яўхім паскроб кадык, зьбіў правай рукой на патыліцу аўчынную вушанку.

— Кажаш, грошы патрэбныя? — перапытаў ён цыгана і заразжа выцяг з кішэні кажуха тоўста напакаваны капшук, расшпіліў.

— Вой, як патрэбныя, чалавеча! — вырачыў вочы цыган.

— Ну, дык махнёмся вопраткай, — засьмяяўся Яўхім! — ты мне сваю футру, а я табе свой кажух разам з капшуком і грашыма!

Ён паклаў прыўсенародна капшук у кішэню кажуха. Цыган доўга не разважаў, кінуў Яўхіму сваю трусіную футру і аберуч учаперыўся ў Яўхімаў дзіравы кажух. Яўхім прымерыўся — як на яго шытая. Падзякаваў цыгану ды зьнік у натоўпе. А праз хвілю на плошчы пачуўся цыганові лямант і рогат... Высьветлілася, што ў Яўхімавым кажуху кішэні былі дзіравыя, і праз дзірку Яўхім паклаў грошы ў кішэню пінжака.

*Мікола Зэраў (1890-1937) – украінскі перакладчык, літаратуразнаўца, паэт. Перадусім вызначыўся сваімі выдатнымі перакладамі з рымскіх паэтаў – Вяргілія, Гарацыя, Тыбула, Авідыя, Марцыяла. Што тычыцца ўласнай (невялікай) паэтычнай спадчыны, дык Зэрава небезпадстаўна ў свойчас называлі «кніжным паэтам» (сам сябе называў ён «бібліяфагам») –мусіць, за схільнасьць да ясных, клясычных формаў, да «кніжных» сюжэтаў, да пластычных вобразаў, маляўнічых апісаньняў. Цяпер Мікола Зэраў, пасьля доўгіх гадоў забыцьця, стаўся адным з самых знаных на Ўкраіне паэтаў. У выдавецтве «Рунь» падрыхтаваная да друку кніга вершаў паэта па-беларуску.*

## PRO DOMO

Якая-ж горкая, о Божа, гэта чаша,
І дзікі густ, і старасьвецкі лак,
І мрояры бяз крыл, якімі так
Паэзія праславілася наша.

Што ні мастак — то флегма і нясмак,
Што ні паэт — то сьлёз і ўздыхаў каша...
О не! Пегасу неабходна паша,
Каб не захрас у твані небарак.

Пластычнасьць, яснасьць формы, контур строгі
І лёгікі зялезнай каляя —
Вось дзе, паэзія, твая дарога.

Леконт дэ Ліль, Жазэ Эрэдыя,
Паранаскіх зор нязгасныя сузор'і, —
Яны адны вядуць на верхагор'і!

23/IV 1921

## Шаноўныя чытачы!

У 2000 годзе ў Літве значна павысіліся паштовыя расходы, удвая павялічылася колькасьць нашых адрасатаў у Беларусі і ў сьвеце. Гэткім чынам выпуск і разсылка аднаго нумару абыходзіцца нам цяпер у $ 350-400. Мы, як можам, шукаем сродкі на выданьне газэты. Гэты й папярэдні нумар «Руні» выдадзены практычна за сьціплыя (і апошнія) грошы арганізацыі-выдаўца – *Віленскага цэнтру грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі»*. Маем вялікую просьбу да тых, хто яшчэ не падпісаўся на газэту на 2000 – падпішэцеся! Нагадваем гэтаксама, што час ужо падпісвацца й на наступны 2001-шы год! Умовы падпіскі ранейшыя:

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to Vilniaus Bankas AB, Vilnius, SWIFT: CBVI LT 2X, at Bankers Trust Company, New York, SWIFT: BKTR US 33, for further credit to VVIC «Demokratija Baltarusijai», account no. 9175/512*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (*т: 61 62 24*) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год –**12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНГ** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў беларускіх рублях эквівалентная **$3**, у краінах СНГ – сума ў нацыянальнай валюце эквівалентная **$ 5**.

**Падпішчыкам у Польшчы** паведамляем адрас у Беластоку: *Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год – сума ў злотых эквівалентная **$8**.

*PS. Просім прабачэньня ў тых нашых беларускіх чытачоў, хто своечасова не атрымаў "Рунь" N33. Затрымка ў атрымальні адбылася з прычыны канфіскацыі газэты на літоўска-беларусукай мяжы.*




*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius, a/d 1021 Lithuania***
*e-mail:* ***nicka@takas.lt***

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| **К. Акула** з Канады | $ 30 |
| **А. Нік з** Амэрыкі | $ 25 |
| **Р.Жук-Грышкевіч** з Канады | 40 KND |
| **М. Грэбень** з Амэрыкі | $ 20 |
| **І. Сьмірнова** з Амэрыкі | $ 100 |

Меркаваньні рэдакцыі
не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік
**Таварыства беларускай культуры ў Літве**
выдаўцы
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў**
**«Дэмакратыя дзеля Беларусі»**
адрас рэдакцыі
*A. Jakšto, 9-106, 2600 Vilnius, Lithuania*
тэлефон: *(+ 370 2) 62 55 71*
факс: *(+ 370 2) 42 38 02*
*e-mail: nicka@takas.lt*
**Алег Мінкін** — рэдактар
**Павал Саўчанка** — сакратар
**Алег Аблажэй** — мастацкі аддзел
**Сяргей Вітушка** — аддзел гісторыі
**Алесь Трусаў** — рэкляма й распаўсюджаньне
друк UAB Adomo Jaksto spaustuve
наклад 1000
*ISNN* **1392-7671**